

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 26 (13556)

22— 28 чэрвеня 1992 года

Цана 3 рублі.



# НА РОСТАНЯХ...

Вось і скончыўся яшчэ адзін школьны год. Настаўнікі і вучні пасля выпускных экзаменаў спяшаюцца на апошні баль. А кожны, хто бачыць у канцы чэрвеня прыгажунь-дзяўчат і юнакоў з кветкамі ў руках, успамінае, што і ў яго жыцці таксама была школа. Нават людзі старэйшага пакалення да сённяшніх дзён памятаюць сваіх лепшых настаўнікаў, якія далі ім шлях у жыццё...

І вось развітанне. У кожнага з педагогаў розныя пачуцці. Адным радасна ад разумення таго, што, нарэшце, гэтыя свавольнікі і гарэзы ўжо не будуць вучыцца ў школе, другім шкада развітвацца са сваімі любімымі вучнямі, трэція з сумам адчуваюць сваю надыходзячую старасць.

Мне шкада сваіх дзяўчынак і Андрэйшу (неўрадлівы на хлапчукоў быў год іхняга нараджэння). Мы сустрэліся ў 4 класе, і вось да апошняга званка былі разам, выключаючы гады нараджэння маіх дзяцей. Мае галчаняты таксама раслі разам з выпускнікамі і, глядзіш, неяк пасябравалі.

Рознакаляровым было наша класнае жыццё. Чырвоным – у час піянерскіх святаў і паходаў; белым – пад квецень яблыневых садоў; жоўтым – у час надыходзячага жніва; чорным – на дзень Чарнобыля; празрыста-блакітным – у нашых марах. Так, былі ў нас і канфлікты – не без гэтага. Але з гадамі прыходзілі ўзаемаразуменне, прывычка ўступаць адзін аднаму, гатоўнасць выслухаць усіх паасобку. І чым больш мы станавіліся дарослымі, тым глыбей адчувалі, што хутка развітанне, і пунсовыя ветразі юнацтва шпарчэй набліжалі гэты час.

Неяк не прынята настаўнікам выказваць вучням словы ўдзячнасці, зусім наадварот. Але ўсё ж мне хочацца сказаць сваім выпускнікам вялікае дзякуй за тое, што яны ёсць, такія розныя і непаўторныя, кожны са сваім характарам і звычкамі. Пашанцавала мне на вучняў. Я бачу іх у далейшым жыцці сумленнымі людзьмі. Веру і спадзяюся, што ўсе яны таксама будуць выдатнымі бацькамі для сваіх дзяцей, пяшчотнымі мамамі і справядлівымі татамі. Усе яны з мнагадзетных сем'яў, і ў гэтым сэнсе я крыху зайздрошчу ім. Добра ведаю, што яны любяць сваю вёску, зямлю, родную Беларусь і заўжды будуць беражлівы гэтае каштоўнае для ўсіх нас багацце.

Перадай, "Чырвонка", развітальнае "бывай" маім вучням. Зычу шчасця ім на доўгія гады жыцця і жадаю ўсяго самага добрага і светлага!

Пяць выпускнікоў вырашылі звязаць свой лёс з настаўніцкай працай, і гэта самая вялікая ўзнагарода для мяне.

**Н.І.ЧАРНАБАЙ,**
класны кіраўнік
11-га класа
Чамярыскай СШ
Брагінскага раёна
Фота Р.Когана.

*Дабрачыннасць*

# РЭХА ТЭЛЕМАРАФОНА

Прэзідыум Беларускага дзіцячага фонду падвёў вынікі тэлемарафона "Выратуем дзяцей". У ім прынялі ўдзел дзесяткі тысяч людзей самага рознага ўзросту, 528 працоўных калектываў Беларусі, незалежныя рэспублікі былога Саюза: Казахстан, Таджыкістан, Туркменістан, Кіргізія, а таксама замежныя спонсары з Амерыкі, Швейцарыі, Германіі, Польшчы.

На рахунак Беларускага дзіцячага фонду — арганізатара тэлемарафона паступіла 7 млн.424 тысячы рублёў, на рахункі абласных аддзяленняў Дзіцячага фонду — 378,1 тысячы рублёў, непасрэдна ў інтэрнацкія ўстановы пералічана 1 млн.875 тысяч рублёў. Агульная сума склала 9 млн.750 тысяч 800 рублёў, у тым ліку 900 тысяч рублёў у выглядзе каштоўных папер. Толькі па Мінску 16 мая шэсць шкляных скарбонак дапамаглі сабраць на карысць дзяцей 107 тысяч 191 рубель. Тэатры, творчыя калектывы рэспублікі свае спектаклі, канцэрты прысвяцілі выхаванцам школ-інтэрнатаў, дзіцячых дамоў, пакрыўджаным лёсам дзецям. Вытворчае аб'яднанне "Кінавідэапракат" арганізавала для дзяцей бясплатныя кінасеансы, а самі школьнікі падтрымалі гуманную акцыю "Дзеці — дзецям" і таксама пералічылі грошы на рахунак тэлемарафона, падрыхтавалі выступленні для равеснікаў з інтэрнатаў.

Сярод буйных укладчыкаў — Савет Міністраў Беларусі (1,5 млн.руб.), камерцыйны банк "Беларусь" (1 млн.руб.), ашчадны банк (200 тыс.руб.), Міністэрства абароны (500 тыс.руб.) і многія іншыя.

Прэзідыум Беларускага дзіцячага фонду зацвердзіў каштарыс расходаў "марафонскіх" сродкаў. На выкананне праграмы "Чарнобыль і дзеці" выдзелена 2 млн.рублёў, праграмы "Сям'я" — 1 млн.рублёў, "Цёплы дом" — 1 млн.рублёў, "Сіроты ў сем'ях" — 500 тысяч рублёў, "Хуткая дапамога" — 500 тысяч рублёў.

Прынята рашэнне аказаць грашовую дапамогу дванаццаці інтэрнацкім установам. 890 тыс.рублёў выдзелена васемнаццаці дзіцячым дамам сямейнага тыпу рэспублікі. Каля 200 сем'яў, якім неабходна была падтрымка, атрымалі гуманітарную дапамогу, дзіцячае харчаванне.

У адрас тэлемарафона паступілі дабрачынныя дары, якія перададзены ў дзіцячыя ўстановы, сем'і хворых дзяцей. У штаб тэлемарафона паступіла каля 200 заяў, пісьмаў, тэлефонных званкоў з просьбамі аб дапамозе, усе яны ўважліва вывучаны камісіяй па падвядзенню вынікаў тэлемарафона, аказваецца кансультатыўная, матэрыяльная, гуманітарная дапамога. Але галоўны поспех тэлемарафона: людзі адчулі сябе адзінай сям'ёй, усвядомілі неабходнасць дзейнічаць разам у абарону правоў дзяцінства — абарону свайго будучага. А ідэя правядзення тэлемарафона вясной наступнага года знайшла падтрымку ў людзей.

Франц Лявіцкі.

*Новаўтварэнні*

# Прадстаўнікі Феміды аб'ядноўваюцца

Усё больш пашыраецца спіс грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў, якія рэгіструе Міністэрства юстыцыі Беларусі. 6 красавіка гэтага года была афіцыйна зарэгістравана Асацыяцыя суддзяў Беларусі, задуманая як грамадская прафесійная арганізацыя, асноўнымі мэтамі якой з'яўляюцца абарона сацыяльна-эканамічных, працоўных і асабістых правоў яе членаў, садзеянне павышэнню статуса судоў, забеспячэнню прававых і матэрыяльных гарантый іх незалежнасці. Мяркуецца таксама, што створаная арганізацыя будзе садзейнічаць аднаўленню судовай рэформы, зоймецца распрацоўкай альтэрнатыўнага закона аб судовым ладзе ў рэспубліцы. Яшчэ адна задача Асацыяцыі — паляпшэнне кадравага патэнцыялу суддзяў, павышэнне іх прафесіяналізму. З'яўленне гэтай арганізацыі, як паведаміў яе старшыня Утлік Іван Фёдаравіч, было выклікана адсутнасцю органа, зацікаўленага ў стварэнні незалежнага суда.

Асацыяцыя аб'ядноўвае суддзяў раённых, гарадскіх, абласных судоў і Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Аб колькасці яе членаў гаварыць яшчэ цяжка, аднак трэба зазначыць, што найбольш актыўна ўступаюць у Асацыяцыю суддзі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, менш актыўнасці праяўляюць у гэтым іх калегі з Мінска і Мінскай вобласці.

— Працэс стварэння нашай арганізацыі,— зазначыў Іван Фёдаравіч,— не заўсёды ішоў гладка. На ўстаноўчай канферэнцыі Асацыяцыі, куды прыехала 60 дэлегатаў, не было ніводнага прадстаўніка з Гомельскай вобласці. Гэта — вынік "добрасумленнай" працы некаторых службовых асоб, якім стварэнне нашай арганізацыі прыйшлося не даспадобы, а таму яны палічылі патрэбным даць адпаведныя рэкамендацыі і судовым работнікам. Увогуле ж трэба зазначыць, што сама ідэя Асацыяцыі падтрымана суддзямі рэспублікі, і, трэба чакаць, з цягам часу членамі арганізацыі стане пераважная большасць беларускіх суддзяў. Разам, як вядома, лягчэй змагацца за свае правы, за незалежнасць судоў ад выканаўчай улады. Дзеля гэтага патрэбна, каб выдзяленне сродкаў з Дзяржбюджэта на ўтрыманне судоў было пазначана ў заканадаўстве асобным радком. Нельга не закрануць і спрэчнасць той думкі, што суды сядзяць на шыі ў дзяржавы. Як вядома, суды накладваюць на абвінавачаных спагнанні, і часта ў даволі значных памерах. Яшчэ мы будзем змагацца за тое, каб падбор і расстаноўка кадраў былі выключна кампетэнцыяй судоў, а не Міністэрства юстыцыі. Асацыяцыя, у сваю чаргу, будзе несці маральную адказнасць за проціпраўныя ўчынкі сваіх членаў.

Сяргей Вішнеўскі.

*Стоп-факт Стоп-факт Стоп-факт*

## Філатэлісты Беларусі — чакайце!

Напэўна, многія філатэлісты ўжо зачакаліся паштовых марак Беларусі. Калі то яшчэ было аб'яўлена ў друку аб іх выхадзе ў свет, але дарэмна дапытлівыя калекцыянеры шукаюць новыя экземпляры для сваіх калекцый на паліцах магазінаў і кіёскаў "Саюздруку". Ва ўпраўленні арганізацыі сувязі Міністэрства сувязі Беларусі рашуча адмовіліся даваць якія-небудзь каментарыі на гэты конт, спаслаўшыся на тое, што па гэтаму пытанню яшчэ не прынята канкрэтнага рашэння. Заўважылі толькі, што ёсць цікавыя задумкі, але для іх ажыццяўлення патрэбны сродкі, якіх, як вядома, і днём са свечкаю не знайсці. Беларускаму ж Дзяржзнаку, які па вушы закапаўся ў сваім "звярынцы", зараз не да нейкіх там паштовых марак. Так што прыйдзецца задаволіцца толькі выказанай надзеяй на тое, што праз год удасца, магчыма, наладзіць выпуск беларускіх марак. А пакуль што на паштоўкі і канверты будзем ляпіць партрэты пралетарскіх правадыроў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху.

## Цукрова-гарэлачны бум

Хто сёння можа сказаць, што ён упэўнены ў заўтрашнім дні? Напэўна, ніхто. Асабліва тыя людзі, якія гадзінамі стаяць у чэргах па прадукты, якія з разгубленымі тварамі носяцца ў пошуках... цукру. Дарэчы, пра цукар. Калі цана на яго падскочыла ў некалькі разоў, усе былі ўпэўнены, што паліцы магазінаў будуць перапоўнены ім. А што атрымалася на самай справе, расказваць, напэўна, не трэба. Куды ж падзеўся цукар? Як паведаміла Ірына Уладзіміраўна Палянічка, начальнік аддзела рэгулявання цэн на харчовыя тавары Галоўнага ўпраўлення пры Дзяржэканомплане, адказаць на гэта пытанне цяжка. Кожны дзень для Мінска выдзяляецца неабходная колькасць цукру. А чаму ён не даходзіць да пакупнікоў, невядома. Ірына Уладзіміраўна дадала, што 30-рублёвыя цэны на цукар, якія існуюць зараз, доўга пратрымацца не змогуць: гэтага прадукту не вельмі многа. І таму хутчэй за ўсё нам прыйдзецца перажыць яшчэ адно падаражанне.

Было зададзена яшчэ адно пытанне: што чакае гарэлку, ці будзе даражаць яна? І.У.Палянічка адказала, што і тут няма ніякай гарантыі ад нечаканасцей, таму што даражаюць прадукты, з якіх гарэлка выпрацоўваецца: зерне, спірт...

Так што па ўсім відаць, што нам прыйдзецца адчуць на сабе яшчэ адзін віток цэн. Ці вытрымае толькі наш бюджэт чарговы "сюрпрыз"?

## Беларуска-літоўская сустрэча

19—20 чэрвеня ў вёсцы Гервяты, што ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці, прайшоў беларуска-літоўскі навуковы "круглы стол", прысвечаны Вялікаму княству Літоўскаму. Месца яго правядзення выбрана па той прычыне, што на тэрыторыі Гервяцкага сельсавета пражывае нямала літоўцаў.

Удзел у "круглым стале" прынялі прадстаўнікі інстытутаў гісторыі Акадэмій навук Беларусі і Літвы, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Беларускага народнага фронта і "Саюдзіса", аддзела культуры Астравецкага райвыканкама.

Удзельнікі беларуска-літоўскага "круглага стала" навукоўцаў у Гервятах атрымалі пасланне ад Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча, у якім былі выказаны пажаданні ўдзельнікам сустрэчы.

Вынікам абмеркавання агульных праблем гісторыі Вялікага княства стала спецыяльнае "Паведамленне", распрацаванае і прынятае ўдзельнікамі "круглага стала".

## Візы будуць. Але не для ўсіх

У газеце "Известия" за 19 чэрвеня з'явілася інфармацыя, у якой паведамлялася, што па прапанове прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча ўрад мае намер у бліжэйшы час увесці візавы рэжым для ўезду ў нашу рэспубліку замежных грамадзян.

У каментарыі з гэтай нагоды ў Савеце Міністраў паведамілі, што "Известия" няправільна адлюстравала гэты факт. На самай справе на нарадзе, якая адбылася нядаўна пад старшынствам В. Кебіча, было прызнана мэтазгодным звярнуцца ва ўрад з прапановай аб увядзенні ў нашай рэспубліцы візавага рэжыму для грамадзян усіх замежных дзяржаў, акрамя тых краін, з якімі будуць заключаны двух- і шматбаковыя пагадненні. Гэта выклікана "імпартам" у Беларусь злачыннасці з іншых краін СНД, у першую чаргу з каўказскага рэгіёна. На нарадзе былі абмеркаваны канкрэтныя крокі па ўзмацненню на граніцах рэспублікі пагранічнага, мытнага і міліцэйскага кантролю, а таксама пашпартнага рэжыму ў гасцініцах і іншых месцах пражывання гасцей.

Усе прапановы, якія паступілі ад удзельнікаў нарады і адобраны імі, будуць разгледжаны на адным з бліжэйшых пасяджэнняў Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі, які прыме спецыяльную пастанову.

## Крэдыт. Аазіс ці рэальнасць?

Ужо ўвайшло ў звычку (толькі ці ў добрую) атрыманне розных бязвыплатных дапамог, крэдытаў і г.д. Як стала вядома, хутка мы атрымаем яшчэ адзін крэдыт. На гэты раз нашай рэспубліцы дае яго Швейцарыя. Сума крэдыта не вельмі вялікая (120 мільёнаў даляраў), асабліва калі ўзгадаць, што гадавы абарот Беларусі складае лічбу, якая ў дзесяткі разоў перавышае названую. Але, як кажуць, даюць — бяры... Права выплаты крэдыту расцягнута ажно на дваццаць гадоў.

З просьбай аб каментарыі гэтай падзеі мы звярталіся і ў Савет Міністраў, і ў Міністэрства замежных спраў, і ў Дзяржэканомплан. Але нідзе не згадзіліся праліць святло на гэтае пытанне, спаслаўшыся на тое, што нічога аб крэдытах невядома. Вось так. Грошы ідуць, а хто за іх будзе адказваць, ніхто не ведае. Цікава, куды, у чые рукі трапяць гэтыя грошы?

## "Сакрэтныя" пашпарты

Сёння Беларусь з'яўляецца самастойнай дзяржавай. І ў яе, як і ў кожнай дзяржаве, існуюць свае пытанні. Адно з іх — увядзенне на тэрыторыі рэспублікі новых пашпартоў для беларускіх грамадзян. Добры гэты крок ці не — вырашаць не нам. Адно можна сцвярджаць з упэўненасцю: пашпарты ў незалежнай дзяржаве павінны быць свае.

А якія ж работы вядуцца ў гэтым накірунку? Калі беларусы змогуць атрымаць кніжыцу з "Пагоняй" на вокладцы (а яна, напэўна, будзе абавязкова)? З просьбай даць якія-небудзь каментарыі па гэтых пытаннях я звярнуўся ў Дзяржзнак Рэспублікі Беларусь.

Насуперак усім чаканням там адмовіліся даваць якія б то ні было адказы, спаслаўшыся на тое, што для прэсы пакуль што нічога сказаць не могуць. Маўляў, пашпарт — гэта не кніжка з казкамі. Паведамілі толькі, што да канчатковага рашэння яшчэ далёка. А пра работы, якія праводзяцца па распрацоўцы беларускіх пашпартоў і ўвогуле гаварыць нельга, бо ідуць яны пад грыфам "сакрэтна".

Што ж, як бачым, паўтараецца да болі знаёмы малюнак: робім для народа, але без яго ўдзелу. А потым здзіўляемся: і чым жа гэта масы незадаволены?

Паводле паведамленняў нашых карэспандэнтаў

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Рыгор БАРАДУЛІН,*
*паэт:*

– Сёння трывогу на душы выклікае гэтая дзікая, так званая рынкавая эканоміка, якая ўсталявалася ў нашым грамадстве і якая больш паходзіць на звычайны базар. Тую эканамічную палітыку, якую праводзяць зараз усё тыя ж хуценька змяніўшыя афарбоўку бальшавікі, я назваў бы неасаветызацыяй. Значная частка людзей думае зараз толькі пра тое, як выжыць у гэтых умовах, таму не дзіўным і нават заканамерным здаецца заняпад культуры, мастацтва і літаратуры. Як пісьменніка, паэта мяне вельмі непакоіць тое, што з кожным днём растуць цэны на паперу, і таму многія выдавецтвы аказаліся на мяжы банкруцтва, а падтрымкі чакаць, бадай, няма адкуль. За той час, калі бальшавікі будавалі камунізм, нас не толькі зраўнялі ў беднасці і галечы, але і пакінулі наш народ без яго роднай мовы, адабраўшы нацыянальную свядомасць у беларусаў. Па сутнасці, адбылася дэнацыяналізацыя Беларусі. У вельмі цяжкім стане знаходзіцца зараз наша беларуская літаратура. Усе размовы аб нацыянальным адраджэнні пакуль што ў большасці выпадкаў размовамі і застаюцца. Той жа, хто сапраўды хоча нешта зрабіць для адраджэння беларускай культуры і літаратуры, заўсёды, як правіла, натыкаецца на неадольную сцяну чэрствасці і абыякавасці. Канешне, заўсёды хочацца спадзявацца на лепшае. Але вельмі падобна на тое, што караням адраджэння прыйдзецца прабівацца не праз асфальт нават, а праз жалезабетон.

*Грыгорый Канстанцінавіч ГРУДЗІНСКІ,*
*дырэктар арэнднага прадпрыемства фірменнага абутковага магазіна "Прамень":*

– Магазін карыстаецца добрай славай сярод пакупнікоў, таму што значная частка прадстаўленых у ім тавараў мае высокую якасць і адпавядае патрабаванням моды. Асаблівым попытам карыстаецца абутак сумеснай беларуска-германскай фірмы "Белвест". У параўнанні з іншымі абутковымі фабрыкамі гэтае прадпрыемства не спяшаецца павышаць цэны на сваю прадукцыю. Вось, напрыклад, калі да першага чэрвеня мужчынскія чаравікі каштавалі ў сярэднім 750 рублёў, то зараз яны каштуюць прыкладна 1100. Як бачым, цэны выраслі ненамнога. Таму гэты абутак прыходзіцца многім грамадзянам якраз па кішэні.

А ўвогуле праблема забяспечанасці людзей абуткам існуе. Асартымент невялікі, і таму людзі нярэдка купляюць не тое, што ім падабаецца, а тое, на што натрапяць. Ускладняе сітуацыю недахоп сыравіны.

Што датычыць нашага магазіна, то ў ім, шчыра кажучы, абутак набыць нялёгка. Таму сталі прывычнымі доўгія чэргі ля яго. Так што, калі ў вас хапае здароўя і трывання, то прыходзьце: можа вам і пашанцуе.

*Міхаіл Іванавіч ФАМЕНКА,*
*дырэктар арэнднага прадпрыемства Мінскага камбіната рыбных тавараў:*

– Выхваляцца нам пакуль што няма чым. Кожны дзень узнікаюць усё новыя праблемы. Грошай няма ўвогуле. Працуем толькі чатыры дні ў тыдзень. Вымушаны з-за адсутнасці работы адпраўляць людзей у водпускі. На прыбытак разлічваць і ўвогуле не прыходзіцца: попыт на нашу прадукцыю панізіўся больш чым у два разы. У першую чаргу гэта звязана з павелічэннем цэн на рыбу.

І яшчэ. Рынак, канешне, справа добрая. Але ж неабходна, каб ён стаў сапраўдным рэгулятарам рыначных адносін у эканоміцы. Пакуль гэтага не будзе, паляпшэнне жыццёвага ўзроўню застанецца марай не толькі для сённяшняга пакалення, але і для нашых нашчадкаў. Доўга, канешне, марамі жыць нельга, доўга такое становішча працягвацца не можа, бо ўсяму ёсць канец. Вось толькі які ён будзе ў адносінах да нас?

*Неафіцыйны "афіцыёз"*

# ФІНІТА РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА

## Шушкевіч вяртаецца з Бразіліі

### Едзе ў Гародню. Дае прэс-канферэнцыю. Адказвае на ўсе пытанні...

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.

Канферэнцыя ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю, якая праходзіла ў далёкай сонечнай Бразіліі, на мінулым і пазамінулым тыднях была адной з цэнтральных тэмаў для беларускіх газет, радыё і тэлебачання. Па-першае, таму што ў склад беларускай групы, дэлегаванай у Рыо-дэ-Жанейра, уваходзіў спадар Шушкевіч. Ну, а па-другое, выступ Станіслава Станіслававіча ад 13 чэрвеня 1992 года на канферэнцыі надзвычай моцна ўразіў ейных удзельнікаў, ці, як зараз часцяком пішацца, міжнародную супольнасць.

Чым жа так вызначыўся даклад Старшыні Беларускага Вярхоўнага Савета для ўдзельнікаў "Рыо-92"? Нам, пэўне, будзе цяжка зразумець ашаламляльны вынік выступу спадара Шушкевіча. Лічбы, прыведзеныя ў дакладзе, ледзь ці не завучаныя многімі з нас напамяць: настолькі часта яны паўтараюцца, бо датычаць нашай бяды — чарнобыльскай трагедыі. Вось некалькі вытрымак з выступлення С.С. Шушкевіча:

*"Ацэнка ўрону, нанесенага Чарнобылем Рэспубліцы Беларусь, якая сама не мела і не мае ніводнай атамнай электрастанцыі, вызначаецца шаснаццаццю гадавымі бюджэтамі рэспублікі;*

*больш дзвюх трацей радыеактыўнага попелу Чарнобыля выпала на Беларусь і пакрыла пятую частку яе тэрыторыі;*

*з моцна забруджаных раёнаў рэспублікі мы завяршаем перасяленне звыш ста тысяч чалавек...*

*... на працягу пяці апошніх гадоў зафіксаваны рост анкалагічных захворванняў шчытападобнай залозы ў дзяцей у дваццаць два разы!"*

Сумна было нам, журналістам, даведацца на прэс-канферэнцыі, праведзенай беларускай дэлегацыяй пасля "Рыо-92", пра тое, што знайшліся на такім высокім узроўні слабакі ў геаграфіі — увогуле не ведаюць, дзе тая Беларусь знаходзіцца. Заўважце, усё-такі не хатнія гаспадыні папляткарыць на кухні сабраліся, а кіраўнікі дзяржаў амаль з усяго свету. Прыйшлося вытлумачваць: маўляў, на ўсход ад Польшчы, на захад ад Расіі і г.д. Але турбуе іншае. Мы пры гэтай шырокай міжнароднай пагалосцы меркавалі, што-што, але пра Чарнобыль ведае ўвесь свет. Аднак, як кажуць, век жыві — век здзіўляйся. Адшукаліся "першаадкрывальнікі". Да вышэйсказанага варта дадаць, што краіны так званага трэцяга свету ўвогуле, мякка кажучы, не ў захапленні ад праблем рэспублік разваліўшагася Саюза. Чаму? Бо бачаць у апошніх толькі прэтэндэнтаў на дапамогу ААН, якая дасюль выдаткоўвалася выключна ім. Перспектыва дзяліцца з кімсьці не выклікае "энтузіязму" ў гэтых краін, таму пры абмеркаванні цяжкасцей маладых суверэнных дзяржаў экс-СССР яны... Яны схільныя папросту "не заўважаць" гэтыя самыя цяжкасці. Як выявілася, нават чарнобыльскую трагедыю.

Усё-ткі вернемся да даклада спадара Шушкевіча, які меў назоў "Чарнобыльскі след на Беларусі". Выступ, ашчадна падрыхтаваны загадзя, пасля прыезду ў Рыо быў тэрмінова зменены. Атмасфера форуму навяла Станіслава Станіслававіча ды іншых прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі на думку: памяркоўны, шматаркушавы даклад не завалодае ўвагай прысутных. І Станіслаў Станіслававіч, дарэчы, як ён сам прызнаўся, захапіўшыся запалам выступу Фідэля Кастра ("куміра трэцяга свету"), скараціў "выпешчанае дзецішча" да лаканічнага выступу — ледзь ці не заявы. "Рыо" здранцвела...

Па праўдзе, фінал "Рыо-92" не настолькі ашаламляльны, як здабыткі беларускай дыпламатыі. Падпісаны два сусветныя пагадненні. Першае тычыцца паўсюднага пацяплення на зямным шматпакутным шары (не ў сэнсе міжнародных зносін, а прымяняльна да клімату). Другое пагадненне заклікана захоўваць шматаблічнасць усяго жывога на зямлі, перапыніць знікненне рэдкіх відаў зямных істот. Пэўне, больш значнымі сталі кулуары сустрэчы ў Рыо-дэ-Жанейра. Уявіце сабе, што на канферэнцыю ў Бразілію з'ехаліся прадстаўнікі амаль усіх краін свету. Не цяжка здагадацца, ім было пра што пагаманіць між сабой. Прыватна спадар Шушкевіч перамовіў з Бушам, Фідэлем Кастра, Іліеску.

На прэс-канферэнцыі не абышлі ўвагай і той момант, што замежныя сродкі масавай інфармацыі, інфармацыйныя агенцтвы невысока ацанілі канферэнцыю ААН у Рыо-дэ-Жанейра.

Напрыклад, можна было б запатрабаваць, каб ЗША і іншыя развітыя краіны плацілі па прад'яўленых рахунках за забруджанне навакольнага асяроддзя. Ну і зусім заканамерна прагучала наступнае пытанне: "Ці былі спробы Беларусі, Украіны і Расіі падрыхтаваць сумесны даклад аб Чарнобылі?" На што прысутным было адказана: Украіна нам прапанавала далучыцца да заявы, але "мы баяліся пэўнага пераразмеркавання". Карацей, рэспублікі пажадалі гаварыць пра чарнобыльскую трагедыю паасобку.

Пасля гаворкі пра экалагічную канферэнцыю журналістаў шчодра запрасілі пытацца "пра што захочацца". Аднак пасля сонечнай Бразіліі, флюіды якой, здаецца, наскрозь працялі прысутных, журналісцкая грамада разгайдалася не адразу. Урэшце, ачомаліся і вярнуліся да нашых рэалій: прагучаў запыт пра верагоднасць будаўніцтва ў Беларусі ўласнай АЭС. Сапраўды, пад час візіту С. Шушкевіча ў Францыю ўздымалася праблема атамных станцый. Беларусь не валодае энерганосьбітнымі прыроднымі рэсурсамі. Складваецца тупіковая сітуацыя ў энергетыцы. У Францыі 72 працэнты электраэнергіі даюць атамныя станцыі. Нягледзячы на гэта, у краіне не было ніводнай сур'ёзнай аварыі за ўвесь час эксплуатацыі мясцовых АЭС. "Шчыра кажучы, я думаю,— зазначыў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі,— што без ядзернай энергетыкі нам не абысціся". Але тут жа паспешліва дадаў, што не лічыць ядзерную энергетыку адзіна магчымым паратункам для Беларусі: папросту адсутнасць энергарэсурсаў змушае думаць пра канцэпцыю развіцця энергетыкі ўвогуле. А то, працягнуў Станіслаў Станіслававіч, "мы памром ад холаду на тых дровах, якія ў нас гніюць".

Пыталіся пра ўсё: і пра візіт у Гародню, і пра нацыянальнасць Шушкевіча, і пра боязь матэматыка Платонава вяртацца ў Беларусь, і пра рэферэндум. Адказы былі прыкладна такімі. У Гародню Станіслаў Станіслававіч ездзіў не да польскай меншасці, а паглядзець на калгасы і "чырвоных памешчыкаў", якія нядрэнна-такі існуюць нават пры цяперашнім развале. Польская газета памылілася, назваўшы Станіслава Станіслававіча палякам — Шушкевіч "і па паходжанню, і па перакананню — беларус". Матэматык Платонаў можа спакойна вяртацца дадому, ізноў набыць, па чутках, нядаўна здадзены авіябілет, і ўвогуле яму нявара рабіць з сябе "фігуру нумар адзін". Абгрунтаванне ж яго колішняга ад'езду з Беларусі, па словах Шушкевіча, "матэматычна недакладнае". Пытанне, вынесенае на рэферэндум, з-за некампетэнтнасці папярэдняга складу ЦВК, зарэгістравана алагічнае. Так што рэферэндум будзе, але не ўвосень. Апазіцыя, зразумела, не ў захапленні ад такіх прагнозаў.

Напрыканцы сустрэчы я запыталася Станіслава Станіслававіча, ці будзе абмяркоўвацца на маючым адбыцца Прэзідыуме Вярхоўнага Савета пытанне аб вывадзе афіцэраў Беларусі з "гарачых рэгіёнаў". Ён адказаў, што такія праблемы вырашаюцца ў рабочым парадку, што афіцэры прыязджаюць сюды і становяцца беспрацоўнымі і шмат чаго іншага. Пэўне, сёння, калі на ўсю моц раскручваюцца ваенныя падзеі ў Прыднястроўі, Закаўказзі, Станіслаў Станіслававіч, спадзяюся на гэта, думае інакш.

*Рэпліка*

# ПАЧАКАЙМА ПЕНСІІ!

**Урэшце змешчаны ў друку Закон аб агульных пачатках маладзёжнай палітыкі Рэспублікі Беларусь – першы Закон аб маладзёжнай палітыцы ў межах СНД. У Кыргызстане апублікаваны Указ Прэзідэнта, які, літара ў літару, паўтарае беларускі "маладзёжны" законапраект у першым чытанні. "Аналагічныя законы Польшчы і Венгрыі ў падэшвы да нашага нявартыя – страшэнна заідэалагізаваныя",– заўважылі мне прадстаўнікі падкамісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

Адновім жа даволі сумную гісторыю стварэння прыгаданага закона і стаўленне да яго амаль што большасці народных абраннікаў у Вярхоўным Савеце. Нявартa граху таіць: любяць ў нас сказаць пра моладзь, "зрабіць" цікаўнасць на твары — усё гэта, зразумела, спрыяе папулярнасці кожнага палітыка, узбагачае ягоны палітычны капітал. Гэткія адносіны да моладзі пераходзяць ад першых асоб дзяржавы — да другіх, ад другіх — да трэціх... Да таго ж нялішне дадаць, што маладзёжнае лобі ў парламенце невялічкае. Гэта адзінаццаць дэпутатаў, узрост якіх каля 30-ці гадоў — дакладней ад 30-ці да 35-ці. Цяпер, так бы мовіць, маладыя дэпутаты за час дэпутацтва сталі яшчэ старэйшымі.

Як ні дзіўна, пры абмеркаванні "маладзёжнага" законапраекта пазіцыі так званых кансерватараў і зноў жа так званых дэмакратаў супалі. Маўляў, паглядзіце, хто ў камках у чорных скураных куртках сядзіць? Моладзь... А мы, працягвалі нязгодныя нават з самім фактам прыняцця закона аб маладзёжнай палітыцы, адбіраем апошняе ад калек, нябог дзеля фізічна моцных, непашкамутаных жыццём суперменаў. І далей гэтакай прымітыўнай палітычнай тэзы — аніяк. Урэшце дэпутаты з "маладзёжнай падкамісіі западозрылі, што таму-сяму папросту выгадна пакінуць праблемы моладзі нечапанымі. Няхай незадаволенасць гэтай выбухованебяспечнай сацыяльнай групы расце... Урэшце лясне цца так і не акрыялая новая ўлада. Такім чынам законапраект аб маладзёжнай палітыцы сустрэў у парламенце процістаянне.

Калі ж адкінуць побытавыя меркаванні і істэроідныя эмоцыі, нельга не канстатаваць: больш за траціну нацыянальнага даходу Беларусі ствараецца рукамі маладых. І шкадаваць сотую долю ад гэтага набытку для стварэння таго ж Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі — нонсенс. Скваліны, як вядома, плаціць двойчы. Дарэчы, рашэнне наконт стварэння камітэта ўжо падпісана В.Ф. Кебічам і зараз, калі пішуцца гэтыя радкі, магчыма ўжо вызначаны кандыдат на пасаду першага старшыні першага Беларускага камітэта па справах моладзі. Хаця нам, "закормленым" самымі разнастайнымі чыноўна-бюракратычнымі структурамі, мала радасці ад узнікнення чарговай установы: была б толькі справе ад новых чыноўнікаў доўгачаканая карысць! На абласным і раённым узроўнях ужо існуюць мясцовыя органы, якія займаюцца вырашэннем праблем маладых. Дык Камітэт па справах моладзі гэта, відаць, першы дзяржаўны орган, узнікненне якога распачалося не зверху, а знізу.

Аднак апублікаваны закон мае шэраг даволі кідкіх недахопаў. Возьмем хаця б такую выснову: "У мэтах стварэння неабходных умоў для функцыяніравання зарэгістраваных маладзёжных аб'яднанняў, уплыву на характар і накіраванасць іх дзейнасці, дзяржава можа аказваць ім матэрыяльна-фінансавую і арганізацыйную падтрымку". Такім чынам дзяржаве дадзена магчымасць вызначаць "любых" і "нялюбых". Узнікае лаз для скарыстання асабістых сувязей, каб "выбіць" па знаёмству дзяржаўныя выдаткаванні. Але ледзь ці не найбольш уразіла, што па закону моладдзю лічацца ўсе, каму не мінула 25 гадоў. У нас аніводнага дэпутата такога ўзросту ў Вярхоўным Савеце няма! А прыгадайце вызначэнне "малады навуковец", "малады мастак" і зірніце на гэтыя яшчэ не старыя, але страшэнна стомленыя твары: ім ненамнога болей за 25. Колькі сіл страчана дзеля набыцця элементарнага: даху над галавой, больш-менш сталай працы, прыстойнага заробку. Дык як жа быць з тымі, хто старэйшы за 25 год (на 2, 3, 4 гады), але не мае ні жытла, ні працы па спецыяльнасці, ні дастатковага заробку?

Што рабіць з гэтай сумнай спадчынай таталітарнай сістэмы, калі "маладымі" лічыліся да 40 гадоў. Я не пра лідэраў камсамольскіх арганізацый і нават не пра маладосць у сэнсе ўзросту, а пра маладосць як няўключанасць чалавека ў сацыяльнае жыццё з усімі вынікаючымі праблемамі. Пэўне, дзяржава ніколі не пакрыўдзіць ні сябе, ні сваіх чыноўнікаў. Зараз віхура рынку пагоршыла стан бяздомных, беспрацоўных. Праблемы ж многіх з іх цягнуцца яшчэ з часоў застою. А маладая незалежная дзяржава (сама маладая!) паспешліва адмывае рукі ад грахоў застойшчыны.

25 гадоў — мяжа маладосці ў гэтай краіне? Ды годзе вам, спадарства, гэта папросту смешна. Стамляемся мы намнога раней, а вось сталеем і набываем матэрыяльную незалежнасць, так бы мовіць, становімся на ногі гадоў недзе пад сорак. І тое, не кожны. Так што 30 гадоў, прапанаваныя камісіяй і адхіленыя дэпутацкай большасцю,— дастаткова слушная юрыдычная мяжа маладосці, хаця б на нейкі пераходны перыяд. Хто ж вінаваты, што для набыцця нават пражытковага мінімуму — даху над галавой, працы і г.д. у гэтай краіне неабходна дажыць да сівых валасоў. Усе мы, у пэўным сэнсе, "вечна маладыя".

* * *

**Пакуль у вярхах вырашаюць арганізацыйныя пытанні, звязаныя з утварэннем ва ўрадзе Рэспублікі Беларусь структуры па справах моладзі, мясцовыя органы ўлады першыя зразумелі, што без стаўкі на маладое пакаленне не дабіцца зрухаў у палітычным і эканамічным жыцці.**

**24 чэрвеня 1992 года адбылася прэзентацыя аддзела па справах моладзі і рабоце па месцы жыхарства выканкама Фрунзенскага райсавета г.Мінска, на якой яго супрацоўнікі азнаёмілі журналістаў з планамі сваёй работы, падзяліліся меркаваннямі пра новыя заканадаўчыя акты, скіраваныя на ажыццяўленне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь.**



Катэдж дырэктара трэста сталовых і рэстаранаў спадара Лусто.



Шпарка ідзе будоўля катэджаў маладзечанскай наменклатуры.

# ЦЕНІ Ў "ГОРАДЗЕ СОНЦА"

**Неяк аднойчы дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, мэр Маладзечна Карпенка паабяцаў, што зробіць гэты горад Горадам Сонца. Абяцанне хоць і рызыкоўнае, але мэта, згадзіцеся, дастойная сапраўднага палітыка, які клапоціцца пра дабрабыт сваіх выбаршчыкаў. Маладзечанцы гэтыя словы свайго мэра запомнілі і пачалі рыхтавацца ў сонечны горад сваёй агульнай мары, хаця і разумелі, што адбудзецца гэтае перасяленне не ў хуткім часе.**

Песімізм, як вядома, у нашыя складаныя часы справа даволі распаўсюджаная. І не беспадстаўна. Толькі раптам маладзечанцы даведаліся, што Горад Сонца амаль пабудаваны. Яшчэ крыху, пару месяцаў, неабходных для заканчэння ўнутраных работ, і ўсё будзе гатова, падрыхтавана для засялення. Адно шкада: патрапіць туды далёка не кожны...

Гэты, калі можна так сказаць, жарт сёння бадай што самы папулярны ў Маладзечне, хоць ужо і не новы. А справа тычыцца катэджнага будаўніцтва прыватнымі асобамі ў вёсках, што знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад горада. Гэтыя прыватныя асобы — людзі далёка не простыя, вядомыя ў горадзе, хоць гэтая іх выключная выбітнасць даравана адной вартасцю: пасадаю.

У аўтобусе, які выехаў з "экскурсіяй па месцах лепшых забудоўшчыкаў", разам з дэпутатамі гарадскога і абласнога Саветаў, ехалі простыя рабочыя. Мэтаю гэтай паездкі, арганізаванай Дэмакратычным клубам дэпутатаў гарсавета і, у прыватнасці, яго членамі М.Г.Івашкевічам, старшынёй рады ТБМ, дэпутатам гарсавета Л.А.Цімохіным і дэпутатам аблсавета А.А.Хвосцікам, было жаданне звярнуць увагу грамадскасці і праваахоўных органаў да таго, кім, як і ў якіх памерах вядзецца будаўніцтва катэджаў.

Прыехаўшы на месца, я доўга круціў галавою ў пошуках катэджаў і здзіўляўся — дзе ж яна, гэтая вядомая будоўля? Вось стаіць (праўда не скончаны) невялічкі Палац культуры, вось, напэўна, дзіцячы садок, а тут, хутчэй за ўсё, будзе паліклініка. А катэджы дзе? Можа вось гэтыя, недабудаваныя маленькія домікі?

І як я даведаўся крыху пазней, гэта і сапраўды катэджы. Толькі прызначаліся яны для перасяленцаў з забруджаных радыцыяй зон Гомельскай вобласці. Вось ужо амаль два гады працягваецца гэтая марудная будоўля. То не хапае матэрыялаў, то яшчэ чаго, а людзі чакаюць.

— Атрымалі мы пустыя "каробкі", — гаворыць Мікалай Міхайлавіч Калыхан, — і ўсё даводзіцца дарабляць самім. Днём працуем на полі, а вечарам, пакуль хапае сіл, упарадкоўваем жытло. Другі год не можам канчаткова пераехаць сюды з Хойнікаў.

А тыя палацы, на якія я звярнуў увагу ў першую чаргу, таксама аказаліся катэджамі. Толькі чымі? Будоўля гэтая сабрала вяршкі маладзечанскага кіраўніцтва.

— Вось гэты катэдж, — пачаў сваю экскурсію Лявон Цімохін, паказваючы на будынак падобны да "Палаца культуры", — належыць дырэктару трэста сталовых і рэстаранаў спадару Лусто. Вось гэты — начальніку заходняй экспедыцыі глыбокага бурэння Лук'янаву. Далей будуецца дырэктар будаўнічага трэста № 23 Стасіловіч, дырэктар міжрайбазы Хаткевіч і г.д.

Імёны і прозвішчы кіраўнікоў ДРБУ і ПМК, аграпрамаў і баз палохалі паветра і пакідалі ў сэрцы брыдкі асадак. Нават былы начальнік маладзечанскай міліцыі Уладзімір Іванавіч Сіман не адмовіў сабе ў магчымасці мець катэдж. І, як людзі сур'ёзныя, кіраўнікі-будаўнікі па-сур'ёзнаму падышлі да свайго новага хобі. Будаўнічыя пляцоўкі поўніліся будаўнічымі матэрыяламі, пад'ёмныя краны бесперапынна падавалі цэглу на верхнія паверхі, шпарка працавалі брыгады будаўнікоў.

— На каго працуеце, хлопцы? — пытаюся ў стомленых рабочых.

— А хто яго ведае, — на хвіліну перапыніўшыся, адказваюць тыя. — Далі загад, вось і адпрацоўваем сваю зарплату.

— Няўжо ў горадзе не хапае працы, што вы працуеце тут, на "вясковых" аб'ектах?

— Нішто сабе "вясковы" аб'ект! — заўсміхаліся рабочыя. — У горадзе не хапае іншага.

— Чаго, напрыклад?

— Будаўнічых матэрыялаў, тэхнікі.

— Але тут, я бачу, з імі праблем няма?

— Як хто расстараўся.

А расстараліся не блага. У той час, калі многія аб'екты ў горадзе замарожаны, тут будоўля кіпіць поўным ходам. За пяць месяцаў выраслі пасярод поля, здольныя радзіць хлеб і бульбу, трохпавярховыя гмахі, якія гатовы прыняць у сябе гаспадароў.

— Паглядзіце на гэтыя дамы. Сённяшні іх кошт — прыблізна 1—2 млн рублёў. Вы можаце сабе такі пабудаваць? — пытаецца ў мяне А.А.Хвосцік. — І я не. А гэтыя ж людзі маюць заробак не на шмат большы ў параўнанні з нашым. У чым жа сакрэт? Усё вельмі проста. Той, хто займаецца продажам будматэрыялаў, мае магчымасць аформіць сабе іх продаж мінулым годам, хаця год выпуску на плітах — бягучы (розніцу ў коштах бачыце?), можа набыць цэглу па льготных коштах і г.д. Як зрабіў гэта, напрыклад, дырэктар будтрэста № 23 Стасіловіч.

— Такія абвінавачванні павінны мець пад сабою глебу. Нельга сцвярджаць такое, не маючы на руках фактаў.

— Безумоўна. Толькі факты ёсць. Акрамя факта продажу сёлетніх будматэрыялаў у "мінулым годзе", ёсць і яшчэ некаторыя. Так нядаўна каля катэджаў была затрымана машына з цэментам, у пуцявым лісце вадзіцеля якой было ўказана, што ён вязе даламіт у Палачаны, вёску, якая знаходзіцца зусім у іншым баку ад Насілава, дзе будуюцца катэджы. Машыну арыштавалі, і вадзіцель яе сказаў, што вёз свой груз па загаду кіраўніка. Але ўжо праз некалькі гадзін былі выпісаны новыя накладныя, а вадзіцель, як аказалася, проста заблукаў і, увогуле, не ведаў, што вязе. А сёння на будоўлі катэджа дырэктара банка Карнавуха была заўважана пажарная машына, што залівала ваду ў ёмістасці для прыгатавання цэменту.

— Так няўжо на гэтыя факты не звяртаюць увагу праваахоўныя органы?

— Мы даслалі дэпутацкі запыт пракурору Мінскай вобласці Сірашу. На які атрымалі адказ, у якім гаворыцца: "Праверкай устаноўлена, што ніякіх парушэнняў няма". Хоць ведаем дакладна, што ніхто з пракуратуры вобласці на будоўлі катэджаў у вёсках Цюрлі, Насілава і іншых не быў.

Вось такая сітуацыя. Вось такое будаўніцтва, якое праз некалькі месяцаў абяцае быць скончаным, шыкоўныя гмахі будуць гатовыя да засялення. Але як бы там ні было, я б перасцярог ад аднабаковага ўспрымання і стаўлення да іх існавання. Безумоўна, дамы гэтыя каштуюць вялікія грошы, якія мне, прынамсі, і большасці насельніцтва Беларусі на будаўніцтва такога кшталту наўрад ці сабраць. Будматэрыялаў і тэхнікі па льготных цэнах не ўзяць. Нават з зямлёю пад катэдж узнікнуць складанасці, вырашыць якія хутка нам не дазволіць наша сацыяльнае становішча. Гэтыя ж людзі і грошы дзесьці знайшлі, і танныя матэрыялы, і ворную зямлю ім аддадуць (як гэта зрабіў старшыня Цюрлёўскага сельсавета Калівахa) без праблем. Толькі ці выйсце ў закліках да экспрапрыяцыі? Гэта ўжо паспрабавалі зрабіць сем дзесяцігоддзяў таму і, як бачым, станоўчага выніку не атрымалася. Я не супраць багацця. Наадварот. Толькі ці тыя людзі выкладаюць за катэджы пад Маладзечнам сотні тысяч рублёў, што зарабілі свой капітал прыватным бізнесам і фінансавай рызыкай? Я не супраць катэджаў. Толькі чаму штучны вакуум законаў дазваляе па-ранейшаму атрымліваць зямлю пад катэджы наменклатуршчыкам без праблем, а простыя людзі стаяць у чарзе вось ужо некалькі год і не бачаць прасвету? Я не супраць прыватнага будаўніцтва. Толькі чаму будаўніцтва мікраёна № 6 г.Маладзечна, дзе павінны жыць настаўнікі, замарожана, з-за адсутнасці будматэрыялаў і тэхнікі, а на будоўлі катэджа дырэктара трэста сталовых і рэстаранаў стаіць кран (кошт якога 3 тыс.рублёў за 8 гадзін працоўнага дня), а на будоўлі катэджа дырэктара будтрэста № 23 Стасіловіча ў вялікай колькасці назапашана цэглін і пліт, што набыты па льготных цэнах?

Спрабуючы вырашыць гэтыя пытанні, я звярнуўся да намесніка старшыні гарсавета, маёра КДБ М.М.Кудзіна.

— Справа ў тым, што сам я на гэтай будоўлі не быў, — адказаў мне Мікалай Мікалаевіч, — але прыняць нейкія меры мы зможам толькі тады, калі праваахоўнымі органамі будзе выяўлены факт злачыннасці альбо крадзяжу. На сённяшні ж дзень і з тымі фактамі, якія ёсць у гарсавета, мы можам гаварыць самае вялікае пра злоўжыванне службовым становішчам.

— Усе па закону маюць права атрымаць зямлю пад будаўніцтва катэджа. Але чамусьці пакуль што яе атрымала толькі "вышэйшае" кіраўніцтва Маладзечна...

— Так. І ў гэтым вінаваты вакуум законаў, не створана ўмоў для сапраўднай іх працы. І пакуль гэта будзе працягвацца, тыя, хто могуць па свайму сацыяльнаму, службоваму альбо фінансаваму становішчу гэты вакуум запоўніць, не ўпусцяць свайго кавалка салодкага пірага.

— Два гады будуюцца невялічкія дамы для перасяленцаў з Хойнікаў, а катэджы наменклатуры выраслі сярод голага поля за 5 месяцаў. Не сорамна перад людзьмі?

— Канешне, сорамна. Толькі што мы можам зрабіць? Перасяленцы працуюць у калгасах і саўгасах Маладзечанскага раёна, і жыллё ім будуе калгас, які знаходзіцца пад апекаю райсавета. Мы ж не можам іх прыспешыць.

— У горадзе не хапае будаўнічай тэхнікі, будоўлі прастойваюць. Гарсавет жа ўяўляе сабою гарадскую ўладу, на ім ляжыць адказнасць за дабрабыт у горадзе. Няўжо вы не можаце загадам зняць краны з будоўлі катэджаў і накіраваць іх на будоўлю жылля ў горадзе? Людзям жа так абрыдла стаяць у чарзе на жыллё, а тыя, хто будуе сабе катэджы, маюць у горадзе кватэры!

— Так, мы разгледзім гэтае пытанне. Але нельга забываць, што тэхніка працуе на будаўніцтве па закону, за яе заплачана.

Мы яшчэ доўга і шмат аб чым размаўлялі з Мікалаем Кудзіным, толькі так і не скрануліся з месца. І, у прынцыпе, я з ім згодны. Што можна даказаць людзям, якія на кожнае пытанне маюць апраўдальную паперу? Адзінае, што ім можна сёння сказаць: "Як вам не сорамна?! І раней былі над усімі, і цяпер узбіліся вышэй усіх?". Толькі што адкажа нам на гэта былы другі сакратар Смалявіцкага райкома КПБ, а сёння старшыня аграпрама Бушыла, гледзячы з акна свайго катэджа на дэлегацыю народных дэпутатаў і рабочых? Толькі пасмяецца.

— Ці маюць сэнс усе гэтыя намаганні? — запытаў я ў Лявона Цімохіна. — Ці не здаюцца яны вам смешнымі?

— Не. Мы не павінны маўчаць. Трэба хаця б адстойваць сваю чалавечую годнасць. І мы гэта зробім.

Я з'язджаў з Маладзечна з сумнымі разважаннямі ў душы. Безумоўна, нельга адабраць у чалавека тое, што ён зарабіў сумленна (пакуль не даказана адваротнага). І ніхто яшчэ не адграбаў ад сябе. Толькі калі ж усё-такі Горад Сонца стане горадам для тых, хто зарабіць сабе гэтае права, а не толькі для наменклатуры?

Зм.ЛУКАШУК,
аглядальнік
па пытаннях
эканомікі.
Тэл.39-87-94.

*Госць "Чырвонай змены" — загадчык аддзела друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Сяргей Анатольевіч ПАВАЛЯЕЎ.*



хоўнага Савета з тым, каб уключыць гэтыя пытанні ў парадак дня чарговай сесіі. Акрамя таго, рыхтуецца ўрадавы дакумент па пытаннях матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння СМІ, будуць выдзелены значныя дзяржаўныя субсідыі. У нас ужо ёсць цікавыя прапановы замежных партнёраў на гэты конт. Хоць, зразумела, ніхто проста так грошы даваць не будзе, іх будуць даваць пад канкрэтныя праекты.

**– Сяргей Анатольевіч, а ці ёсць ужо нейкія канкрэтныя думкі наконт адзінай канцэпцыі нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі? Ці вызначаны нейкія прыярытэты?**

заўтра — невядома. А ўсе нашы маладзёжныя выданні знаходзяцца ў "падвешаным" стане, няма надзейных спонсараў і заснавальнікаў. Федэрацыя Саюза Моладзі, напрыклад, увогуле ўхілілася ад праблем гэтых выданняў, што, я лічу, з'яўляецца палітычным нонсенсам. Аднак урад не ставіцца да гэтага абыякава. Зараз разглядаецца пытанне аб стварэнні Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі, і менавіта ён можа стаць заснавальнікам маладзёжных выданняў.

Канешне, вам трэба шукаць нешта і ў камерцыйным плане, можа, выданне нейкай сваёй бібліятэчкі, можа, нешта яшчэ. А з паперай мы дапаможам.

# "СВОЙ ЧАЛАВЕК" ВА ЎРАДЗЕ

**– Сяргей Анатольевіч, зараз для сродкаў масавай інфармацыі настаў нялёгкі час. Ці аблегчыць наша жыццё новы аддзел урада? Як ваша праца стасуецца з дзейнасцю ўжо існуючых структур, у прыватнасці, Міністэрства інфармацыі?**

— Я павінен сказаць, што галоўная задача нашага аддзела — эканамічная падтрымка сродкаў масавай інфармацыі. Як вы самі разумееце, гаспадарка гэтая — вельмі клапотная, асабліва ў цяперашні час. Нам неабходна распрацаваць уласную канцэпцыю інфармацыйнай прасторы, улічваючы вельмі выгаднае геапалітычнае палажэнне Беларусі, і да такой працы ўжо прыступіла Міністэрства інфармацыі. Будуць вырашацца і пытанні заканадаўчага забеспячэння гэтай канцэпцыі. У канцы мінулага года быў падрыхтаваны праект беларускага Закона аб друку і сродках масавай інфармацыі. Аднак ён не быў нават разгледжаны на сесіі Вярхоўнага Савета, бо, шчыра кажучы, быў вельмі "сырым". Зараз у структуры Міністэрства інфармацыі будзе арганізаваны часовы творчы калектыў, спецыялісты яшчэ раз прааналізуюць дакументы, прынятыя іншымі дзяржавамі, і паскоранымі тэмпамі распрацуюць наш закон.

**– Наколькі хутка мы атрымаем яго? Бо пакуль нам даводзіцца карыстацца Законам аб друку былога СССР...**

— Вы ж ведаеце, што на сесіі Вярхоўнага Савета было прынята рашэнне ў пераходны перыяд кіравацца раней прынятымі заканадаўчымі актамі былога Саюза ў той частцы, дзе яны не супярэчаць Канстытуцыі рэспублікі: у рэшце рэшт, увогуле без законаў жыць нельга. Зразумела, гэта часовая мера, якая, на жаль, зацягнулася. А што датычыць даты прыняцця нацыянальнага Закона аб друку, то гэта максімум вясна 1993 года.

У гэтым плане я вось што хачу яшчэ сказаць. Мы не сядзім, склаўшы рукі, і разумеем, што дзеючае заканадаўства ў многім недасканалае і б'е ў першую чаргу па сацыяльных праблемах інфармацыйнай прасторы. І вось зараз сумесна з камісіяй Вярхоўнага Савета мы падрыхтавалі праект прапаноў па ўнясенню змен у падаткавае заканадаўства, у прыватнасці, у такія "славутыя" дакументы, як Закон аб падатках на дабаўленую вартасць і на прыбытак. Камісія прыняла нашыя прапановы, і зараз яны перадаюцца ў Прэзідыум Вяр-

— Вядома. Мяркуйце самі: мы, у нашым становішчы, займаем амаль вядучае месца ў Еўропе па колькасці выданняў: іх у нас 585. Частка з іх — камерцыйныя, якія раз-пораз закрываюцца. Аднак большасць — гэта выданні дзяржаўныя або муніцыпальныя, якія на тым ці іншым узроўні трэба падтрымліваць. Прыярытэты ж ужо даўно вызначаны, гэта ў першую чаргу беларускія выданні. Мы абавязаны выконваць Закон аб мовах; абвясціўшы дзяржаўны суверэнітэт, мы сказалі "а", а цяпер трэба сказаць "б". Беларускамоўных выданняў у нас усяго чвэрць...

**– Трэба прызнаць, што ў цяперашніх умовах яны намнога менш канкурэнтназдольныя, чым рускамоўныя...**

— Я лічу, што на якой бы мове ні выходзіла газета, калі яна будзе цікавая, нечаканая — яе будуць чытаць. З пункту гледжання прафесіяналізму, у нас толькі некаторыя выданні вытрымліваюць крытыку, астатнія — вельмі сярэднія і жывуць толькі за кошт датацый. І трэба ўсведамляць, што бясконца так працягвацца не можа. Вядома, мы пойдзем, відаць, на тое, каб беларускамоўным выданням знізіць кошт на 25—40 працэнтаў. Ва ўсялякім выпадку, у бліжэйшыя год-два. Што ж датычыць муніцыпальных выданняў (я маю на ўвазе гарадскія і "раёнкі"), зразумела, такую колькасць утрымліваць было б утопіяй. Відаць, неабходна рабіць куставыя, міжрэгіянальныя выданні, ператвараць іх у штотыднёвікі, змяніць змест і ў большасці выпадкаў назвы, бо ў асноўным "раёнкі" практычна паўтараюць назвы калгасаў. Навошта нам гэтыя гістарычныя і палітычныя помнікі?

Асабіста мяне больш хвалюе маладзёжная прэса. Я лічу, што тут канцэптуальныя акцэнты павінны быць расстаўлены вельмі дакладна: куды яна ідзе і на што накіравана, якую канкрэтную напрацоўку мае. Трэба ўсведамляць, што ў сапраўдным рынку будзе жыць будучае пакаленне і ўжо цяпер яго трэба рыхтаваць. Адраджэнне нацыянальнай свядомасці і маралі, безумоўна, закладваецца прэсай. І сітуацыя тут зараз вельмі складаная. Вось зараз мы выдзелілі на 17 выданняў 56 мільёнаў датацыі: атрымалі грошы і "Чырвоная змена", і "Маладосць", і іншыя маладзёжныя выданні. Аднак гэта разавая мера. Сёння знайшлі грошы ў дзіравым бюджэце, а як будзе

Асабліва ў сельскай мясцовасці моладзь практычна адарвана ад грамадска-палітычнага жыцця. І "Чырвоная змена", адзіная нацыянальная маладзёжная газета, павінна ўзяць на сябе гэтую праблему.

Трэба шукаць ідэю, вакол якой згуртавалася б большая частка насельніцтва. Ідэя нацыянальнага адраджэння сама па сабе добрая, аднак яе трэба напоўніць нейкім новым, прывабным зместам. Амерыка ў 30-я гады, японцы ў 50-я выходзілі з крызісу менавіта пад сцягам нацыянальнай ідэі.

Дарэчы, у мяне ёсць да Вас пытанне, а ці не хочаце вы памяняць сваю назву?

**– Справа ў тым, што ў нас склалася пэўнае кола падпісчыкаў, як мы лічым, свядомых беларусаў, і мы папросту баімся страціць іх са зменай назвы, згубіцца сярод шэрагу іншых выданняў. А "Чырвонка" ўсё ж існуе 71 год... А што Вы параілі б нам як чытач?**

— Я раскажу, калі дазволіце, маленькую гісторыю, якая адбылася з англійскай газетай "Морнінг стар". Каб падкрэсліць сваё дачыненне да "пралетарскага" колеру, у свой час яна стала змяшчаць ля загалоўка чырвоную зорку. А калі пачалася кампанія супраць камуністаў і на газету падалі ў суд за гэта, яны адказалі, што гэта ўсяго толькі ранішняя зорка, якая на досвітку мае менавіта такі колер. І выйгралі працэс...

**– Сяргей Анатольевіч, на заключэнне – традыцыйнае пажаданне супрацоўнікам і чытачам "Чырвонкі".**

— Я вельмі паважаю супрацоўнікаў вашай газеты. Дарэчы, можна сказаць, што я сам з'яўляюся вашым аўтарам. У 1989 годзе газета прадаставіла мне магчымасць выказацца па палітычных пытаннях, за што я вельмі ёй удзячны. Што ж датычыць вашага будучага, то ўвогуле будучыня за маладымі. І дай Бог нам і вам падрыхтаваць глебу для таго, каб прыйшло наступнае пакаленне — арганізаванае, з жаданнем і ўменнем працаваць, з новымі ідэямі і аптымізмам.

Гутарку вёў
Павел Сіманаў.

# Выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў?




Было свята. Дзень абароны дзяцей. Кветкі, музыка, танцы, спевы. Шмат прыгожых слоў.

Тут таксама было свята. Дзеці з захапленнем сачылі за канцэртнай праграмай. А я... Я не мог падняць свае вочы на сцэну, бо гэтыя дзеці былі пакрыўджаны лёсам. Святу ўжо не хапіла месца ў маім сэрцы.

30 мая ў Мінскім Доме настаўніка адбылася прэзентацыя Асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў (АБДІ). Нарэшце тапельцы зразумелі, што выратоўваць іх ніхто не збіраецца, акрамя іх саміх.

Сама па сабе думка аб'яднацца разам нарадзілася яшчэ летась, 24 чэрвеня. Выпадак, што яны сышліся разам у МДПІ замежных моваў на сустрэчы з прадстаўнікамі нямецкага рэабілітацыйнага цэнтра дзяцей і падлеткаў, якія хвараюць на эпілепсію. Але заканамерна, а не выпадкова, што іх там было шмат і што яны вырашылі аб'яднацца, бо цяжка вырашыць такія праблемы сам-насам са сваім горам.

Як рэха, як адказ на чарнобыльскую бяду, узніклі шматлікія дзіцячыя дабрачынныя арганізацыі. Я не хачу іх ганіць, бо справа, якую яны робяць, вельмі карысная, дзейсная. Яшчэ Цыцэрон казаў: "Уся маральная каштоўнасць адлюстроўваецца дзеяннем". Але гэтых фондаў шмат і дапамагаюць яны ўсім дзецям. Тут жа дапамога патрабуецца кожнаму канкрэтнаму дзіцяці. І менавіта сёння. Заўтра можна ўжо спазніцца.

У АБДІ абыякавых людзей няма. У кожнага сваё гора. Але яны вырашылі змагацца з ім разам — талакой.

Хворым дзецям трэба тое ж, што і здаровым: дзіцячыя садкі, школы, але спецыяльныя. Інвалідам патрэбны рэабілітацыйныя цэнтры, лекі, проста ўвага...

Калі мы, ідучы па вуліцы ці задушаныя натоўпам у грамадскім транспарце, раптам сустракаем інвалідаў, асабліва маладых, адразу ж спрабуем адвесці вочы ўбок. І што прыкра, робім гэта часцей за ўсё не ад спачування, а каб лішні раз не будзіць сваё сумленне. Не хапае сіл на сапраўднае спачуванне: шмат праблем надае хворая эканоміка, не ведаем, чым заўтра накорміць сваіх дзяцей і ў што апрануць... Пераўвядзём сляпога праз вуліцу і, кінуўшы яго на другім беразе машыннай ракі, шыбуем далей — няма часу!

Мне не хапіла смеласці зазірнуць у вочы бацькам дзяцей-інвалідаў. Ім лёсам наканавана бесперапынна даглядаць хворых, усімі сродкамі бараніць іх ад гэтага жорсткага свету, а часцей за ўсё нават замяняць сваёй асобаю ўвесь гэты шматколерны свет.

Калі жанчыны даведаліся, што я журналіст, яны літаральна ўхапіліся за мяне, як за надзею, магчыма, апошнюю. Расказвалі не толькі пра сваіх дзяцей, а пра ўсіх, каму патрэбна дапамога. Бясконцы паток жыццёвых гісторый...

Намеснік старшыні АБДІ Заводскага раёна Мінска Тамара Уладзіміраўна Дзяркач:

— Вымаўляем прыгожыя словы. Але, па-шчырасці, кожны жадае выштурхнуць сваё дзіця, каб дапамаглі яму... Размовы, размовы... Але дапамога патрэбна неадкладна, цяпер. Напрыклад, у нашым раёне жыве дванаццацігадовы хлопчык Кудзін Сяржа. Калі ад веку было яшчэ толькі 8 год, ён хадзіў, праўда, быў відавочна слабейшы за аднагодкаў. Калі пайшоў у школу, дактары напісалі: "Практычна здаровы", нават не вызвалялі ад фізічнага выхавання. Сёння ж ён мае дыягназ — міяпатыя. Нашы медыкі адмовіліся яго лячыць. За мяжой гэта вылечваюць, тая ж Джуна дапамагае ў падобных выпадках... А тут...

Мы ўсе спачуваем, усё разумеем. Але як прабіць гэты мур? Хто б падказаў.

Шырынскі Міша, 13 год, з Савецкага раёна. Дыягназ — ДЦП (дзіцячы цэрэбральны параліч), не ходзіць. Для лячэння патрэбны грошы. Маці не працуе, бо трэба ж даглядаць хворага сына. Сям'я жыве на бацькаву зарплату, а тыя 285 рублёў, што плаціць дзяржава маці, сродкам існавання лічыць нельга... І гэта пры тым, што кожная другая маці, у якой дзіця інвалід, не працуе...

Лысак Алёша (8 год) і яго брат Антоша (6 год). Дыягназ аднолькавы — тэтрадапарок. У Мінску адмовіліся лячыць: "не жылец!". У Маскве інстытут Бакулева выконвае патрэбныя аперацыі, але калі ў дзіцяці меней за 20 кг вага, да аперацыі не дапушчаюцца. Хлопчыкі важаць толькі па 17 кг. Дактары кажуць, што трэба чакаць, пакуль падрастуць... А самі ведаюць, што праз год-два яны могуць памерці... "Хаця б аднаму з іх дапамаглі. Я не перажыву, калі страчу абодвух..." — плача маці. Сёння аперацыя на сэрцы каштуе прыблізна 80 тысяч рублёў. Асабіста мне не знаёма ніводная сям'я, якая здольна заплаціць столькі.

З размоў я даведаўся, што АБДІ атрымлівае дапамогу ў краіне ў асноўным эпізадычную, пад час чарговых кампаній. З-за мяжы яна паступае больш-менш стала, але не зусім тое, што трэба. Трэба медабсталяванне, мыліцы, дзіцячыя інвалідныя каляскі, лекі... Падзякавалі б за каляскі, якія ўжо былі ў карыстанні... Асацыяцыя плённа супрацоўнічае з дзіцячымі дабрачыннымі фондамі і арганізацыямі. Але ў іх свае праблемы, якія перакрыжоўваюцца. А так сапраўдную дапамогу за ўвесь час існавання аргкамітэта АБДІ атрымалі толькі ад МП "Астра" — 5 матацыклаў і ад інвестыцыйнай камерцыйнай кампаніі "Сцінд" — 150 тысяч рублёў. Больш ахвотнікаў не чуваць. А хацелася б адчуць клопат да Асацыяцыі дзяцей-інвалідаў не толькі з-за мяжы, але і ад асоб на Радзіме, каб яны не адчувалі сябе выкінутымі з грамадства. Для патэнцыяльных фундатараў, якія вырашылі хоць чымсьці ў меру сіл дапамагчы, прапануем адрас: 220020, Беларусь, Мінск, вул.Лесі Украінкі, 2-1-311, тэл.(0172) 54-86-10. Асацыяцыя бацькоў дзяцей-інвалідаў.

Старшыня АБДІ Рахманава Нэлі Іванаўна:

— Мы не перадаём дапамогу камусьці — яна патрэбна нашым дзецям. І не заўтра, а сёння. Мы спрабуем дапамагчы кожнаму канкрэтнаму дзіцяці. Бывае, справа рухаецца толькі на асабістых сувязях. На жаль, у Беларусі сёння практычна няма спецыялістаў па лячэнні ДЦП. Выклікаем з цэнтра Скварцова (Масква), цэнтра Казяўкіна (Львоў). Накіроўваем дакументы на кансультацыю хворых дзяцей заходнімі медыкамі ў маскоўскі цэнтр "Дар жыцця" (былы Савецкі дзіцячы фонд імя Леніна)...

...У зале выключылі святло. Нэлі Іванаўна пабегла па сваіх неадкладных справах. А я, калі выходзіў з Дома настаўніка, звярнуў увагу на выставу дзіцячых малюнкаў. Звычайныя бацькам бы. Толькі побач з прозвішчам, акрамя ўзросту, стаіць яшчэ дыягназ.

Паўлюк БЫКОЎСКІ.





У межах дабрачыннай акцыі "Дзеці дапамагаюць дзецям" у Акружным банку нямецкага горада Вельцхайм 26 красавіка – 8 мая 1992 г. буйной нямецкай маладзёжнай арганізацыяй "Крайсюгенрынг" разам з міжнароднай арганізацыяй "The Company" была арганізавана выстава-продаж "Малюнкі з Чарнобыля". Дэманстраваліся 55 твораў. Атрымана 3,5 тыс.нямецкіх марак. Яшчэ тысячу далі арганізатарам выставы вучні гарадской гімназіі.

Усе грошы накіраваны на рэалізацыю праекта "Цэнтр адпачынку і лячэння на возеры Байкал", дзе павінны будуць аздараўляцца беларускія дзеці з раёнаў, забруджаных радыяцыяй.

## *Да праблемы нацыянальнага Адраджэння*

*Сёняшняя сітуацыя, у якой апынулася Беларусь, даволі супярэчлівая і складаная. Разбурыліся эканамічныя ўзаемасувязі, адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, пакуль толькі крышталізуецца думка адносна выбару грамадскай арыентацыі, відавочна неакрэсленасць шляхоў развіцця. Грамадства блукае ў прыцемках духоўнай і культурнай экспансіі. Гэтыя складанасці і супярэчлівасці пераломнага моманту шматразова ўзмацніліся пасля нацыянальнай трагедыі — аварыі на Чарнобыльскай АЭС.*

*Праблемы развіцця заўсёды стаялі і стаяць у цэнтры ўвагі грамадскай думкі любой краіны незалежна ад яе сацыяльна-палітычнай, эканамічнай, культурнай арыентацыі. І на старонках "Чырвонкі" ўзнімаліся паасобныя пытанні развіцця эканомікі, стану культуры і культурнага будаўніцтва, іншыя праблемы Адраджэння. Чытач, відаць, не абмінуў увагай матэрыялы Ганны Атрошчанкі "Людзі! Што з вамі?" (№ 2), Сафронія Жлобы "Этнас, дзяржава, культура: Прыватныя меркаванні наконт іх суаднаснасці" (№ 12), Івана Крука "Пакаянне, або ці вядзе наша дарога да храма?" (№ 14), "Цярністы шлях адраджэння" (№ 22) і інш., у якіх так ці інакш закранаюцца балючыя сёння праблемы.*

*Сур'ёзнасць і актуальнасць праблем развіцця, адсутнасць Праграмы Адраджэння, наяўнасць у рэдакцыйным партфелі матэрыялаў вымагаюць ад рэдакцыі працягу размовы. Запрашаем выказацца пра праблемы Адраджэння ўсіх тых, каму неабыякавы лёс Айчыны.*

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ, ДЭМАКРАТЫЧНАСЦЬ, СВЕЦКАСЦЬ...

Сёння шмат гавораць аб неабходнасці развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Гэта бясспрэчна. Спрэчнае пачынаецца тады, калі размова ідзе аб тым, які змест укладваецца ў ідэю адраджэння нацыянальнай культуры. Бо не сакрэт, што цяпер у Беларусі існуюць розныя, а часам і дыяметральна супрацьлеглыя пункты гледжання на гэтую праблему. Дзе ж знаходзіцца ісціна? На наш погляд, каб больш-менш непрадузята аднесціся да дадзенай праблемы, неабходна ў самой ідэі адраджэння беларускай нацыянальнай культуры адшукаць яе вузлавыя паняцці, ідэйныя скрэпы, якія, не разрываючы сувязі часоў, захоўваючы гістарычную карэктнасць у адносінах да мінулага нашага народа, у той жа час правільна асвятлялі б адраджэнскі шлях сучаснага і будучага беларускай культуры.

Калі аб'ектыўна ўгледзецца ў гісторыю чалавецтва, то няцяжка будзе ўбачыць шукаемыя паняцці, якія не толькі вылучаліся вялікімі мысліцелямі і гуманістамі ў якасці канстытуіруючых элементаў адраджэння нацыянальнай культуры любога народа, але больш ці менш і сёння рэальна функцыяніруюць у сучасных нацыянальных культурах. Вось гэтыя паняцці: талерантнасць, дэмакратычнасць, свецкасць.

**Талерантнасць,** або памяркоўнасць — гэта паняцце выпакутавана чалавецтвам у ходзе складанай, супярэчлівай, шматпакутнай і ў той жа час, без усякага сумнення, прагрэсіўнай шматвяковай гісторыі. Прынцып талерантнасці атрымлівае сваё канчатковае афармленне ў эпоху Адраджэння, калі замест існуючай да гэтага палітычнай, нацыянальнай, рэлігійнай нецярпімасці прыходзіць усведамленне прыроднай, а значыць, і сацыяльнай роўнасці ўсіх народаў і ўсіх людзей. Паглядзім праз прызму гэтага прынцыпу на праблему адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Відавочна, што не ўсе падыходзяць да развіцця нацыянальнай культуры з пункту гледжання паняцця талерантнасці. Існуюць пэўныя, дакладней сказаць, нацыяналістычныя групы, якія пад сцягам адраджэння нацыянальнай культуры кантрабандай праводзяць ідэйку, з аднаго боку, недаверу да ўсяго рускага без усякага адрознення прагрэсіўнага і рэакцыйнага ў рускай культуры, а з другога — займаюцца безупыннай апалогіяй той часткі заходняй культуры, што якраз характарызуецца сваёй неталерантнасцю. Ці правамерна весці размову аб сапраўдным развіцці беларускай нацыянальнай культуры, убіваючы клін паміж роднаснымі па духу і па спосабу жыцця народамі (беларускім і рускім). Зразумела, не. Вось чаму, калі мы вядзём гаворку аб адраджэнні нашай нацыянальнай культуры, заўсёды неабходна рабіць агаворку: пад нацыянальным адраджэннем нельга разумець і нельга гаварыць аб нацыянальнай нецярпімасці, наадварот, у грамадскую свядомасць павінна ўносіцца пропаведзь шырокай нацыянальнай цярпімасці і справядлівасці, павінна быць пропаведзь велікадушнасці, таму што гэта такія ісціны, якія неабходны ўсім народам.

**Дэмакратычнасць,** або народнасць. Гэта паняцце таксама канчаткова склалася ў той час, што і паняцце талерантнасці. Дэмакратычнасць нацыянальнай культуры паказвае на асноўнага суб'екта, творцу нацыянальнай культуры. Чалавек працы, працаўнік — вось з кім у першую чаргу асацыіруецца паняцце дэмакратычнасці. Не проста народу, а працоўнаму чалавеку павінна служыць нацыянальная культура. Сёння можна бачыць тую небяспеку, што адраджэнне нацыянальнай культуры хутчэй звязваецца не столькі з працоўным чалавекам, колькі з так званымі прыватызатарамі. Варта толькі паглядзець на нашу рэкламу. Спадар, бізнесмен — вось хто сёння рэкламуецца і культывуецца ў якасці рэнесанснага чалавека. Ці бачым мы, ці чуем мы, каб менавіта на чалавека працы было зарыентавана адраджэнне нашай нацыянальнай культуры? Нікольні. А калі і ідзе размова аб простым чалавеку, то толькі як аб пакутным і абяздоленым, якому наш рынак абяцае вечны спакой. Фактычна сёння прапагандуецца не ідэал працы, а ідэал мамоны. Нацыянальная культура, заснаваная на кульце залатога цяльца, не аб'ядноўвае людзей, а раз'ядноўвае. Невыпадкова таму нашыя нацыянал-антыкамуністы так старанна прапаноўваюць беларускаму народу ўваход у "агульнаеўрапейскі дом", таму што няма іншага шляху для рэалізацыі іх праграмы нацыянальнага развіцця, акрамя як ператварэнне людзей працы ў вартых жалю слуг заходняга капіталу. Але што тады застаецца ад ідэі нацыянальнай незалежнасці? Патураць мамоне і ў той жа час па-фарысейску разглагольстваваць аб нацыянальнай незалежнасці — значыць глядзець на гэту незалежнасць скрозь акуляры "Остланда". Такое разуменне адраджэння нацыянальнай культуры антыдэмакратычнае, а значыць, і антынароднае. Або ўзяць пытанне аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Даўным-даўно вядома дэмакратычнае патрабаванне па гэтаму пытанню. Дык не. Мы ж у сваёй неразумнай стараннасці пнёмся даказаць неабходнасць абавязковай дзяржаўнай мовы, без якой, маўляў, не можа быць беларускай нацыянальнай культуры. Але аб тым, што падобная культура будзе насіць прымушальны характар, мы сарамяжліва маўчым. Выйсце з гэтага становішча можа быць толькі адно. У дэмакратычным грамадстве ніякага прымусу ў гэтай галіне не павінна быць. Хай людзі гавораць і вучацца на тых мовах, якія ім падабаюцца. Прадаставім рашэнне пытання, на якой мове чалавеку размаўляць, самой эканамічнай неабходнасці. І дададзім. Людзі працы зразумеюць адзін аднаго, нават калі будуць размаўляць на розных мовах, але багатыя і бедныя не зразумеюць адзін аднаго, нават калі будуць размаўляць на адной і той жа мове.

Сапраўднае адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры магчыма толькі пры ўмове яе дэмакратычнасці. Працоўны чалавек не верыць у праўду грошай, ён верыць у праўду працы.

**Свецкасць,** або секулярызаванасць. Гэтае паняцце гэтак жа арганічна ўваходзіць у канцэпцыю адраджэння нацыянальнай культуры. У вядомым сэнсе можна сказаць, што свецкасць культуры тоесна яе нацыянальнасці. Да таго часу, пакуль культура народа пранізана рэлігійна-царкоўным светапоглядам, нельга весці размову аб уласна нацыянальнай культуры, больш правільна будзе гаварыць аб правінцыяльным характары такой культуры. Станаўленне нацыянальнай культуры любога народа якраз і было звязана з яе вызваленнем ад рэлігійна-царкоўнай санкцыі. Царква павінна быць аддзелена ад дзяржавы, а школа ад царквы, рэлігія — асабістая справа чалавека — такія палажэнні, што былі прапанаваны прагрэсіўнымі мысліцелямі ў перыяд пераходу ад сярэдневякоўя да новага часу. У гэты ж час і адбываецца зараджэнне і развіццё нацыянальнай культуры, прасякнутай чыста свецкім светапоглядам. Рэлігійны характар культуры не ўтрымлівае ў сабе неабходнай сувязі з прынцыпам нацыянальнасці; ён толькі падкрэслівае яе правінцыяльнасць, г.зн. геаграфічную прасторавасць. Справа ў тым, што любая рэлігія звяртаецца не да чалавека пэўнай нацыянальнасці, а да чалавека пэўнай канфесіі. Для рэлігіі важны не нацыянальная, а канфесіянальная прыкмета. Людзі, якія належаць да адной канфесіі, лічаць сябе братамі, усіх жа людзей іншых канфесій разглядаюць як сваіх ворагаў або, у лепшым выпадку, як невукаў. Сапраўдная толькі мая вера, вера ж іншага чалавека — ілжывая — так мысліць рэлігійны чалавек. Зразумела, такі погляд нічога агульнага не мае з прынцыпам нацыянальнай самасвядомасці. Чалавек з нацыянальным характарам ніяк не можа разважаць як канфесіянальная асоба, што, маўляў, сапраўдная мая нацыя, а не твая. Наадварот, узнікненне нацыянальнай самасвядомасці, утварэнне нацый прывяло людзей да думкі аб адзінстве ўсіх народаў, аб стварэнні з мноства нацыянальных культур адзінай сусветнай культуры.

Вось чаму свецкасць нацыянальнай культуры — гэта яе важнейшая, атрыбутачная прыкмета. Імкненне ж будаваць нацыянальную культуру на рэлігійнай аснове не толькі не садзейнічае яе адраджэнню, але і ўяўляе вялікую сацыяльную небяспеку. Уявім сабе, што ў сваім разуменні нацыянальнай культуры мы зыходзім з рэлігійнага прынцыпу, разыходзімся па сваіх канфесіянальных кватэрах і адтуль вяшчаем аб сапраўднасці сваёй культуры і фальшывасці ўсіх іншых. А затым ад слоў пяройдзем да справы. Што можа адбыцца, хай пра гэта кожны з нас пацікавіцца ў гісторыі.

Такім чынам, талерантнасць, дэмакратычнасць, свецкасць — вось тыя тры кіты, на якіх неабходна не столькі адраджаць, колькі працягваць далей развіваць беларускую нацыянальную культуру.



Л. Крыштаповіч,
кандыдат
філасофскіх навук

*Міфалогія*

Калі знаёмішся з адпаведнай літаратурай, то складаецца ўражанне, што самы таямнічы бог усходнеславянскага пантэона — Вялес (Волас). Сучасныя даследчыкі ніяк не дамовяцца наконт яго функцый. Канстанцін Тарасаў, напрыклад, у сваёй працы "Памяць пра легенды" называе яго богам сонца. Акадэмік Барыс Рыбакоў сцвярджае ў манаграфіі "Язычество Киевской Руси", што Вялес быў богам падземнага царства. Шэраг іншых аўтараў "узнагароджваюць" бога іншымі, часцей за ўсё абсалютна рознымі функцыямі. Але ў беларускай міфалогіі Вялес прыгадваецца выключна як бог жывёлы і апякун тых прафесій, якія звязаны з жывёлагадоўляй. Пра гэта ж гаворыць і Нестар-летапісец, называючы яго богам жывёлы. Аўтар "Слова пра паход Ігараў" двойчы прыгадвае яго ў сваім творы. Ён нават лічыць легендарнага паэта-спевака Баяна унукам Вялеса. З "Жития святога Владимира" становіцца вядома, што на капішчы ў Кіеве стаяў ідал Вялеса. Там жа прыгадваюцца падзеі, што адбыліся пасля таго, як Уладзімір вярнуўся з Корсуня (дзе хрысціўся): "повеле коумиры испровреци, овы исеци, а дроугыя огневи предати, а Волоса идола, егоже именоваху скотия бога, повеле в Почайноу рекоу въврещи". З усяго гэтага вынікае, што Вялес падобны па функцыях на старажытнагрэчаскага Пана. Але Пан, акрамя свойскіх жывёл, апякае і лясных. Яго волі слухаюцца "...і птушкі, і гады". Магчыма, калісьці і ў Вялеса былі такія паўнамоцтвы. Але потым нашым продкам, пэўна, здалося, што аднаму богу вельмі цяжка адказваць за ўсе праблемы нашых "братоў меншых". Яны вырашылі адшукаць яму памагатых. Функцыі Вялеса былі падзелены.

Можна меркаваць, што гэтаму падзелу шмат у чым паспрыяў і культ багіні ўгра-фінскіх плямёнаў Бабы Ягі. Знаходжанне гэтай багіні ва ўсходнеславянскім пантэоне выглядае ў наш час упаўне нармальным. Але яна вельмі нехарактэрная для міфалогіі старажытных славян. Калматая старая, якая прыносіць усім, каго сустрэне, адны толькі непрыемнасці. Лётаючая ў ступе ці проста на памяле. Гэткая адыёзная фігура проста не ўяўляецца ў акружэнні велічных постацей усходнеславянскага пантэона. Яшчэ больш падкрэслівае чужароднасць гэтай багіні тое, што яе зрабілі казачным персанажам. Іншыя ж багі, як вядома, не ўдастоіліся гэткага "гонару". Больш таго, менавіта Баба Яга стала галоўным пудзілам для непаслухмяных дзяцей. Тым не менш, капішчы Бабы Ягі знойдзены на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яна лічылася багіняй лясных звяроў (галоўным чынам драпежных). Дарэчы, угра-фінскі корань "Яг", які лёг у аснову імя "бабулі", азначае "лес". Так што цалкам на нашу мову яе імя перакладаецца як "Лясная баба" альбо "Баба з лесу". У сувязі з усім вышэйсказаным можна сцвярджаць, што першапачаткова ў славянскім пантэоне гэтай "прыгажуні" не было. Трапіла яна ў яго пасля таго, як былі асіміляваны ўгра-фіны, жыўшыя на той тэрыторыі, на якой рассяліліся ўсходнія славяне.




Клопаты аб птушках і бяспечных для чалавека лясных жывёлах узяў на сябе Лясун. За сабакамі і катамі назіраць "даручана" было Дамавіку. (Дарэчы, у некаторых мясцовасцях нашай рэспублікі яго называюць Хутам). Рачныя і азёрныя насельнікі пачалі падпарадкоўвацца Вадзяніку. Вялесу ж пасля ўсіх гэтых "падзелаў" засталіся толькі буйная і дробная рагатая жывёла, коні ды, зразумела, апека над пастухамі, жывёлаводамі ды канаваламі. Тыя ж, у сваю чаргу, шанавалі яго. Праводзілі яркія святы. У розных мясцінах Беларусі — у розны час. У перыяд ад першага выгану скаціны на пашу да надыходу халадоў. І назвы святы гэтыя мелі розныя.

Калі ж на нашу зямлю прыйшло хрысціянства, то яго прыхільнікі паспяшаліся перарабіць язычніцкага Вялеса ў святога Уласа. Святы ж, прысвечаныя Вялесу, часткова былі перададзены розным святым (Уласу, Ціхану), часткова зліліся з русаліямі, якія адзначаюцца амаль увесь чэрвень і ў барацьбе супраць якіх царква пацярпела крах.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

## к былых пакаленняў...

фармаванае ад асновы Гбень (на старажытнай мове — паварот, згіб), вёска ўзнікла ля выгібу ракі Брагінкі.

Шэраг населеных пунктаў узнік на месцы старажытных гарадзішчаў і атрымаў ад іх назвы (вёскі Гарадзішча, Гарадок).

З гісторыяй нашых далёкіх продкаў, старажытных славян, звязана і назва вёскі Крыўча. Вядома, што старажытныя славяне жылі плямёнамі, на базе якіх склалася (ва ўмовах утварэння дзяржавы) адзіная старажытнаруская народнасць. На поўдні Беларусі жылі дрыгавічы, драўляне. Пасёлак, створаны крывічамі, атрымаў назву Крыўчы.

Вёскі з асновай крывічы сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Усе гэтыя паселішчы ўзніклі яшчэ ў тыя часы, калі не сцёрліся адрозненні паміж усходнеславянскімі плямёнамі.

Цэламу шэрагу вёсак назву далі род заняткаў, характар гаспадарчай дзейнасці іх першажыхароў. Гэта — вёскі Кавалі, Пасека, Млынок, Рудня, Лубенікі і г.д. Характэрна, што вёскі Рудня (польская Гута) ёсць амаль у кожным раёне рэспублікі. Яны ўзніклі на месцах існаваўшых вытворчасцей па выплаўцы жалеза з балотнай руды. Аб тым, што такія вытворчасці былі і ў нашай мясцовасці, сведчаць пісьмовыя крыніцы. Так, у "Тапаграфічным апісанні Мінскай губерні, аб колькасьці гарадоў, вёсак, манастыроў, цэркваў, дарог, паштовых станцый і прамысловых прадпрыемстваў", выдадзеным у 1800 годзе, па Рэчыцкаму павету ўпамінаецца жалезны завод (Рудня), які належаў графам Людвігу і Алозію Ракіцкім — тагачасным уладальнікам Брагіна і навакольных вёсак.

Лубянікам — людзям, якія спецыялізаваліся на вырабе рагожы і іншых вырабаў з драўніннага лубу, абавязана сваёй назвай вёска Лубенікі і г.д.

Шэраг вёсак Брагіншчыны свае назвы атрымаў ад характару забудовы, памераў. Асаблівасць забудовы, становішча вызначылі назву вёсак Вуглы, памеры — вёска Сялец (невялікае сяло) і г.д.

Што датычыць Слабод (а іх у Беларусі нямала, у тым ліку дзве — у нашым раёне), то імі называліся ў феадальнай Русі XI-XVIII стагоддзяў паселішчы, якія карысталіся часовым вызваленнем ад уплаты падаткаў і іншых павіннасцей. У сельскай мясцовасці слабада ўзнікала на новых, асвойваемых у гаспадарчых адносінах землях (балотах, лясах, пустэчах) з мэтай прыцягнення для пасялення тут выхадцаў з іншых вёсак. Адсюль і назва нашай вёскі Выграбная Слабада.

Перанесены на новае месца пасёлак атрымліваў у народзе і адпаведную назву — Пераносы.

Як ужо адзначалася, многія населеныя пункты Брагіншчыны вельмі старажытныя. За сваю шматвекавую гісторыю іх назвы ў радзе выпадкаў страцілі сваё першапачатковае значэнне або зусім змяніліся.

Характэрная ў гэтых адносінах гісторыя назвы вёскі Галкі. Ёсць вельмі цікавы гістарычны дакумент, які ставіць пад сумненне цяперашнюю версію назвы гэтага населенага пункта. Называецца азначаны дакумент "Абмежаваўчы акт Брагінскага графства", складзены 7 сакавіка 1512 года. Ён уяўляе сабой запіс у актавую кнігу Мазырскага гарадскога суда ад 2 жніўня 1776 года. Пачатак і канец дакумента напісаны польскім скорапісам. Сам дакумент 1512 года складзены на беларускай мове (тадышняй). Аднак паколькі ён быў унесены ў кнігі ў 1776 годзе (калі Беларусь ужо ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай), то пісар запісаў беларускі тэкст лацінскім шрыфтам. У ім утрымліваецца падрабязнае апісанне межаў тадышняй Брагінскай воласці з указаннем урочышчаў і населеных пунктаў, праз якія гэтыя межы праходзілі. Дзяк Кніцічаў, зрабіўшы апісанне межаў па загаду караля Сігізмунда, паўднёвую граніцу вядзе ад Кажушкаў і Дронкі да вусцяў Брагінкі і затым — па Дняпры "да сяла Брагінскага Галэк".

Або гэта слова "галкі" ў родным склоне ў тадышнім беларускім вымаўленні, якога прытрымліваўся і аўтар апісання, або нешта зусім іншае, якое потым трансфармавалася ў "Галкі", — можна пакуль толькі меркаваць.

Характэрна іншае — гэта невялікая брагінская вёсачка ўжо існуе пятае стагоддзе.

Аб тым, якія назвы насілі вёскі ў сярэдзіне XVII стагоддзя, сведчыць апісанне Брагінскага маёнтка польскіх магнатаў Канеўпальскіх, якія валодалі Брагінам пасля князёў Вішнявецкіх. У гэтым дакуменце, які быў змешчаны ў Архіве Паўднёва-Заходняй Расіі (том II, старонка 148-158), пералічваюцца сёлы Канеўпальскіх. У іх ліку Бабчын, Спарыж, Нудзічы, Дублін, Галкі, Сувіды, Мікулічы, Веляцін, Гамолічы, Сялец, Малыйкі, Катловіца, Скураты, Мокіш, Еўлашы, Глухавічы, Сцяжарно, Хатуча, Юркавічы, Юлчы, Ліствін, а таксама хутары Маскі, Ільічы, Буркі, Крыўча, Дамброўскі, Варацец, Каноны, Чэхі, Заблоцце, Ясяноў, Звінярскае, Бандары.

Вышэй адзначаны дакумент сведчыць аб тым, што цяперашняя назва вёскі Спярыжжа не адпавядае пачатковаму сэнсу слова. У народзе спарыжом (спарышом) называюць зрошчаныя арэхі ляшчыны. Чаму раней так называлася вёска, меркаваць цяжка. Магчыма, такую назву вёскі зацвердзіла яе першапачатковая забудова або мянушка жыхара.

Цікавіць таксама і назва маёй вёскі — Чамярысы. Ствараецца ўражанне, што ў аснову назвы гэтай вёскі пакладзена ядавітая балотная расліна чамярыца, якая расце і ў нашай мясцовасці. Аднак гісторыя сведчыць пра іншае. Вёска ў мінулым насіла іншую назву. Пра гэта сведчыць адказ Мінскага губернатара Рэдзінча на прадпісанне Міністэрства ўнутраных спраў з прычыны хвалявання прыгонных сялян памешчыка Юдзіцкага, якое адбылося ў 1808 годзе ў належачых яму вёсках Чырамісы і Просмычы. А між тым Чарамісы — старая, дарэвалюцыйная назва марыйцаў — цяперашніх жыхароў Марыйскай аўтаноміі. Як змаглі выхадцы з Паволжа атабарыцца ў той далёкі час у нас ў Беларусі? Вядома толькі адно, што чарамісы прыцягваліся царскімі ўладамі да нясення ваеннай службы. Упаўне магчыма, што гэту службу чарамісы адбывалі ў той час на Дняпры — на граніцы паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. Магчымы і іншыя версіі іх з'яўлення ў гэтых мясцінах.

Тапонімы — жывая гісторыя народа, люстэрка яго мінулага і цяперашняга жыцця. У назвах шэрагу населеных пунктаў адлюстравалася цёмнае, забітае жыццё дарэвалюцыйнага беларускага селяніна-палешука. Іменна пра гэта сцвярджаюць назвы такіх вёсак, як Нудзічы, Вуглы, Шкураты. Апошняя вёска ў мінулым называлася Скураты. А скуратамі сяляне называлі кавалкі нявырабленай скуры, якая выкарыстоўвалася для самаробнага абутку.

Цяперашняе пакаленне, магчыма, і не ведае, што ў недалёкім мінулым вёска Кіраў нашага раёна насіла іншую назву — Лукаеды. У перыяд голаду, а для многіх сялян-беднякоў ён быў звычайнай з'явай, жыхары падмешвалі ў хлеб мякіну, жалуды або тоўчаную кару (лыка). Адсюль і назва вёскі. Былі ў Беларусі вёскі пад назвай Караеды, Махаеды і г.д.

З цягам часу ўзнікаюць новыя назвы, напрыклад, Чырвонае поле, Чырвоная гара і іншыя. Але ж і іншы працэс назіраецца. Гінуць вёскі, пусцеюць пасля чарнобыльскай навалы. Шмат якіх вёсак ужо няма, яны сцёртыя з твару зямлі, закапаныя і ператварыліся ва ўзвышшы. Толькі памяць людская беражэ былыя назвы — Капоранка, Іванкі, Нудзічы, Ляды, Крукі, Чыкалавічы, Кулажын, Выграбная Слабада. На месцы загінуўшых вёсак, магчыма, пасадзяць лес. І пра іх існаванне забудуцца. Як шкада, што гісторыя вёсак, а значыцца і іх назваў спыняецца. Ці будзе хто памятаць аб іх?

**Наталля ЧАРНАБАЙ,**
**настаўніца, наш няштатны карэспандэнт,**

в. Чамярысы,
Брагінскі раён.



У маладых беларускіх паэтаў і празаікаў свята. Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдадзена рэгістрацыйнае пасведчанне, якое дае права на стварэнне новага літаратурнага часопіса, які атрымаў назву "Першацвет". Заснавальнікі яго – штотыднёвік "Чырвоная змена" і газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь". Сённяшняя наша гутарка з галоўным рэдактарам часопіса Алесем Герасімавічам МАСАРЭНКАМ.

## Алесь МАСАРЭНКА:

# "ТВОРЧАСЦЬ — ПРЫШЧЭПКА СУПРАЦЬ БЕЗДУХОЎНАСЦІ"

– Алесь Герасімавіч, мы прывыклі бачыць вас літкансультантам газеты "Чырвоная змена", кіраўніком літаб'яднання "Крыніцы". Цяпер вы выступаеце ў новым амплуа – рэдактар часопіса "Першацвет". У сувязі з гэтым пытанне: здаецца, на Беларусі не так ужо і мала літаратурных часопісаў – і "Маладосць", і "Полымя", ды і ў іншых выданнях час ад часу можна прачытаць творы маладых аматараў роднага слова. У чым жа неабходнасць стварэння новага часопіса?

— Пачнём з таго, што часопіс ужо створаны. На маю думку, гэтую неабходнасць заўважылі тады, калі ў апошнія тры гады на старонках "ЧЗ" аднавіла сваю дзейнасць літаб'яднанне "Крыніцы". Але ж Бог даў нам не толькі новы часопіс, Бог даў нам — і гэта галоўнае — аўтараў! Вось яны і стварылі гэтую неабходнасць. Яшчэ Экзюперы казаў, што калі своечасова заўважыць талент, ён будзе развівацца. А заўважыць — гэта значыць і падтрымаць. Пакуль малады творца вынырне з багны раўнадушша, праходзіць шмат часу. Адны заглынаюцца гарэлкай, забіваючы энергію, якая не мае выйсця, другіх заглынае быт... У нас жа на "Крыніцах" нават творчыя адносіны пераходзяць у асабістыя. Ужо не адно вяселле згулялі паміж крынічанамі. У наступным выпуску "Крыніц" прачытаеце анкету Анжэліны Дабравольскай і Юраса Пацюпы, там яны прама кажуць, што ўдзячныя "Крыніцам" за сваю сустрэчу, і гэта акрамя паэзіі. У нас склаўся аўтарскі актыў, маладыя таленавітыя хлопцы і дзяўчаты, якіх не заўважыць ужо не магчыма. У "Маладосці", "Полымі" сваё кола аўтараў, якое складалася дзесяцігоддзямі. Некалі "Маладосць" таксама была маладзёжным часопісам. Тыя, хто вырас на "Маладосці" і цяпер працягвае ў ёй друкавацца, для іх "Маладосць" — святыня. Людзям, так бы казаць, з боку прабіцца туды цяжка, але і крыўдаваць на гэта не варта. Маладыя літаратары стаяць у чарзе, а "Першацвет" дае ім магчымасць надрукавацца без шматгадовага стаяння ў гэтай чарзе. У нас аўтарскае кола прыкладна чалавек 50 — самая буйная літсуполка ў рэспубліцы. Вось і з "Тутэйшых" прыйшлі да нас Вітаўт Чаропка і Сяргей Вераціла. Гэта ўжо нашы аўтары. Але яны прыйшлі ўжо сталымі, а, напрыклад, Таня Старасценка, Алесь Пашкевіч, Юлія Алесьніна, Мікола Віч — яны ў нас выраслі, ды й пераraslі, можна сказаць, газету. Гэта ўжо "часопісныя" аўтары. Вядома, часопіс у "Крыніц" аўтараў не забярэ. "Крыніцы" бруяць...

Мы і на часопіс хочам перанесці наш прынцып — не проціпастаўленне пакаленняў, а іх супрацоўніцтва. А наогул "Першацвет" мусіць быць стартавай пляцоўкай у сталасць. У нас такога часопіса, накшталт "Литературной учебы", што выдаецца ў Маскве, няма. Няхай ім будзе "Першацвет". А "Крыніцы" нашы практычна сталі падмуркам часопіса — гэта ж тая самая літаратурная вучоба. Помніцца, рэдактар "Чырвонкі" Уладзімір Бельскі, сам, дарэчы, празаік, прапанаваў мне пасаду літкансультанта, і я ўбачыў шэсць таўсценных папак з творамі, дасланымі пачаткоўцамі, і калі адчуў іх боль, сціснуты ў кардонных вокладках гэтых папак, зразумеў: маладым трэба дапамагаць, збіраць іх, знаёміць паміж сабой, крытыкаваць, у рэшце рэшт. А гэта ж было ў тыя часы, калі цэкоўскія ідэолагі разасланлі паўсюль допіс, быццам бы Ніл Гілевіч з Васілём Быкавым хочуць захапіць уладу. Ой, як сталі баяцца пісьменнікаў кіраўнікі-наменклатуршчыкі! Моладзь у газетах амаль перасталі друкаваць, асабліва на перыферыі. Канечне ж, боль маладых пісьменнікаў за сваю будучыню, за свой творчы роскві трэба вылечваць, інакш хвароба стане хранічнай. І мы сталі збірацца кожны панядзелак, так і стварыўся наш творчы калектыў, які, безумоўна, можа самастойна рыхтаваць свой часопіс. Час прыспеў. Крынічанцы не толькі могуць пісаць для часопіса, але і рабіць яго. Практычна ў нас гатовыя і загадчыкі аддзелаў, і карэктары, пра аўтараў нават і казаць няма чаго. Алесь Пашкевіч стане адказным сакратаром, у рэдкалегію увойдуць Сяржук Мінскевіч, Уладзімір Клімовіч, Юлія Алесьніна і іншыя. Яны ж амаль усе студэнты — нашы будучыя кіраўнікі! Дык хіба ж гэта дрэнна, калі моладзь мае, куды пайсці працаваць па сваіх здольнасцях, па свайму таленту? "Першацвет" будзе менавіта літаратурным часопісам маладых, асновай іх творчага згуртавання.

Любы пачатковец мусіць не толькі пісаць — яму абавязкова трэба і друкавацца, інакш ніякага росту не будзе. Гэта аксіёма. Калі напісаны верш ляжыць год, а то і два — усё, ягоны аўтар як творца проста буцвее. Вырваны парастак адразу ссохне, а калі зноў яго ў глебу пасадзіць, даглядаць яго — прарасце, у новае дрэва ператворыцца. Ёсць пэўны ўзрост, пад час якога чалавек становіцца творцам. Вядома, ён у кожнага свой, але калі гэтыя актыўныя гады сцёртыя, змарнаваныя, пісьменніка не атрымліваецца, хоць і быў талент... Не было таго асяроддзя, не было таго катла, у якім ён павінен быў варыцца, — і не развіўся творца. Мэта часопіса — менавіта развіццё талентаў, клопат пра аўтара як асобу. Тады не трэба будзе цягнуць яго за вушы, проста прачнецца ў ім здаровая зайздрасць — маўляў, мой аднагодка піша, а хіба ж я не магу?

– Алесь Герасімавіч, у чым Вы бачыце адметнасці творчасці цяперашняй моладзі? Чым яна, напрыклад, адрозніваецца ад "Тутэйшых", ад той плыні, што нараджалася ў застойныя, у хрушчоўскія часы, у перыяды першай і другой хвалі беларускага адраджэння? Як вы ахарактарызуеце менавіта постперабудовачную плынь?

— Моладзь сёння разняволеная. Яна не бачыць прымусу над сабой, яна не бачыць хоць бы таго ж ЦК. Па сабе ведаю — ездзіў у Сібір, сабраў матэрыял для рамана "Баргузінскае лета". Цяпер бы я выклаў усё тое, што там сапраўды было, а тады... Прачытала адна дама — не будзем называць яе — з ЦК камсамола і кажа: "Алесь, мы б табе далі прэмію, але ж ты не паказаў у рамане вобраз камсамольца...". Так, сучасная моладзь адчувае сябе незалежнай, пазбаўленай уціску. Гэта — адно. І другое — традыцыя. Традыцыі Багдановіча, традыцыі 20-х гадоў, Адраджэння, вярнуліся з нябыту і той жа Багдановіч, і Гарэцкі, і "Тутэйшыя" Купалы. Гэта ж многа значыць — чалавек пачынае ісці ў першую чаргу ад сябе, ад сапраўднай, народнай традыцыі, ад жыцця. Не сыходзіць ад гэтага, а менавіта адштурхоўвацца. Раней ты напішаш апавяданне, а табе рэдактар кажа: а хай бы ты там паказаў сакратара райкама. Вядома, літаратура таксама павінна бачыць нейкі ідэал, асэнсоўваць яго, але ж у жыцці далёка не ўсё ідзе гладка. Зайздрошчу — нашы маладыя пішуць цяпер аб тым, што набалела на душы, ім, дзякуй Богу, ніхто не замінае. Вядома, калі ідзе суцэльны натуралізм, адна чарнята — тут ужо рэдактар павінен нешта падказаць, параіць. Але не прымушаць. У маладых сустракаецца і эгаізм, і зайздрасць часам — гэта аб'ектыўна. І вось тут парада старэйшага да месца. Не тое, каб лезці ў душу — проста пагаварыць, дапамагчы знайсці памылку.

А вось сталым літаратарам больш цяжка. Цяжка пераарыентавацца сябе — калі хтосьці славіў застой, узносіў у вершах таго ж Брэжнева... Моладзь гэтага пазбаўлена. І калі б іх, як некалі наша пакаленне, прымушалі гэта рабіць — яны б не сталі, не таго гарту. Не стануць яны ўзносіць ні БНФ, ні што іншае менавіта, як партыю. У публіцыстычных творах, вядома, гэта ўсё гучыць, але моладзь з'яўляецца апалагетам не нейкай палітычнай партыі, а менавіта Адраджэння, апалагетам не пэўных канкрэтных носьбітаў, а самога працэсу. Так у прынцыпе і павінна быць. Літаратура — усё ж такі душа. І калі душа маладога паэта летуценна ірвецца ўвышыню — цікава назіраць за ёй, цікава чытаць вынікі працы яго душы.

Прыемна бачыць, як чалавек расце на вачах, проста сам маладзееш... Я змагаўся і буду змагацца за тое, каб нашы таленавітыя хлопцы і дзяўчаты стваралі, друкаваліся і ў нас, і ў "ЛіМе", і ў "Полымі", але свой часопіс — гэта святая справа. Згадаем тых жа "Тутэйшых". Папершае, гэта яны самі казалі — не было ў іх каардынатара, прабіваліся як хто мог. А колькі на гэта часу гублялася, энергіі! Па-другое, у іх не было такога выдання, як нашы "Крыніцы", як наш будучы "Першацвет". Ім не было дзе друкавацца. Да іх не ішлі, бо іхняя суполка ператваралася ў нейкую багему, у літаратурны салон. Не было ў іх падсілкавання з вёскі, з перыферыі. Бясспрэчна, там былі таленавітыя хлопцы, і яны дасягнулі свайго — атрымалі "коркі" Саюза пісьменнікаў.

Трэба больш часопісаў! Усе ж мы людзі, можам не знайсці агульнай мовы з тым ці іншым рэдактарам. Вядома, да літаратурнага твора цяжка быць аб'ектыўным. Калі многа часопісаў, ёсць проста альтэрнатыва. А барацьба паміж літаратурнымі плынямі, нават паміж выданнямі — а кожнае выданне часцей за ўсё адлюстроўвае пэўную плынь — павінна весціся, так было і так будзе. Менавіта творчая барацьба, творчае спаборніцтва. І таму нам трэба даражыць гэтым часопісам, берагчы яго. Гэта як агонь — запаліць і несці, каб асвятляў шлях. Ён яшчэ разгарыцца, але ўжо ёсць гэты агонь — у душах, у вершах, і няма такога брандсбойту, які здолее яго загасіць.

– А якія праблемы вы бачыце на шляху "Першацвета"?

— Праблемы росту. Перахварэць дзіцячымі хваробамі, не згубіць запалу маладосці. Тэхнічныя праблемы, я думаю, мы вырашым, у крайнім выпадку пойдзем ды папросім, што нам трэба. Кіраўнікі ж таксама не бяздушныя. Прычым у большасці, які б ён ні быў зараз бюракрат, усё роўна, недзе ў глыбіні душы ў ім сядзіць творца. Амаль кожны з іх у маладосці штосьці стварыў... Адно шлях яны абралі іншы. У партшколе, дзе я вучыўся (праўда, уцёк пасля першага курса) амаль кожны нешта пісаў. І не веру я, што нехта зможа нас затаптаць. Знішчыць наш "Першацвет", я ўпэўнены, нікому не ўдасца. Вядома, цяплічныя ўмовы таксама ствараць не трэба. Не трэба заплюшчваць вочы і на рынак, ужо цяпер папа́нуе рубель, і я не думаю, што з палёгкай уздыхнём, калі стане панаваць талер. Але што яшчэ важна — не забыцца, як знікла літаратурнае адраджэнне 20-х гадоў, як знішчыў яго палітыка-эканамічны эксперымент Сталіна. Усё зглухла тады. І чаму зараз у вас, маладых, у душах няма, скажам, І.Гурскага або... таго ж П.Броўкі? Дык што — іншае пакаленне, іншыя праблемы? Але ж і Максім Багдановіч, хоць ён і памёр маладым, жыў на самым пачатку стагоддзя. І вось ад яго масточак — да Караткевіча, ад Караткевіча — у наш час. Усё развіваецца, так бы мовіць, па спіралі, і віткі гэтае спіралі непарыўныя. Усё паўтараецца, і дай нам Бог, каб паўтаралася лепшае.

– Застаецца пажадаць "Першацвету", яго аўтарам і рэдактару ўдачы.

Гутарку вёў
Алесь ПАЛЫНСКІ.

# ВЕРЫЦЬ? НЕ ВЕРЫЦЬ?



Мабыць, усе, хто бачыў фільм А.Таркоўскага "Сталкер", памятаюць: у канцы фільма маленькая дзяўчынка – ахвяра іншапланетнай Зоны – рухае поглядам шклянку. Што гэта? Фантазія аўтара сцэнарыя, арыгінальнае заканчэнне кінааповядання? Вядома. І ў той жа час такія з'явы – гэта аб'ектыўная рэальнасць. Як мы ведаем, "сіла волі", з дапамогай якой чалавек можа перамяшчаць фізічныя целы, вывучаецца ва ўсім свеце і называецца "тэлекінез".

## ...КАЧАРГА ЗАВІСЛА Ў ПАВЕТРЫ І... ЗАВЯЗАЛАСЯ ВУЗЛОМ

Звесткі пра гэтыя цуд упершыню мільганулі ў СССР на старонках кнігі прафесара Л.Васільева "Таямнічыя з'явы чалавечай псіхікі" (1963 г.). Вучоны прыадкрывае заслону над гісторыяй праблемы, спасылаецца на калег-папярэднікаў. Выяўляецца, што яшчэ ў 1928 годзе з'явілася манаграфія Рудольфа Рэйтлера аб "сіле", якая зыходзіць ад чалавека і ўздзейнічае на розныя аб'екты. Аўтар нагадвае доследы амерыканскага вучонага Ройна, які лічыў, што можна "кіраваць падзеннем ігральнай косці" і іншымі рэчамі, а таксама эксперыменты па дыстанцыйнаму перамяшчэнню прадметаў у французскім Інстытуце метапсіхалогіі. Загадка, канстатуе Васільеў, у наяўнасці, яна перад намі. А праз год — іронія лёсу! — сустракае жывы прыклад сваіх тэорый, ленінградку Н.С.Кулагіну.

...Нінэль Сяргееўна — чалавек, пра якога цяпер напісаны цэлыя манаграфіі. Свае таленты яна выявіла, калі глядзела на дачку, якая рабіла ўрокі: прамакатка, што ляжала каля сшытка, раптам папаўзла... Прывіды? Жанчына паўтарыла дослед, пачала перамяшчаць "на адлегласці" іншыя дробныя аб'екты, расказала пра свае назіранні ўрачу. Так яна трапіла да прафесара Л.Васільева, энтузіяста вывучэння анамальных з'яў. А калі чуткі даляцелі да Масквы, да яе прыехаў вядомы парапсіхолаг Эдуард Навумаў. Кажуць, ён быў так усхваляваны, што, калі вярнуўся ў гасцініцу, то і сам доўга спрабаваў рухаць "намаганнямі волі" розныя рэчы...

У 1968 годзе Ленінградская студыя навукова-папулярных фільмаў зрабіла унікальныя здымкі: Кулагіна круціла на адлегласці стрэлку компаса, рухала пачак з запалкамі, каўпачок ад аўтаручкі, пачак цыгарэт. У наступным доследзе гэтыя прадметы схавалі пад куб з аргшкла, але і гэта ніяк не адбілася на талентах Нінэль Сяргееўны. Крыху пазней яе здольнасцямі зацікавіліся і японскія "кіношнікі". З цягам часу жанчына паставіла рэкорд: ёй удалося перамясціць на 10 сантыметраў графін з вадой агульнай вагой 553 грамы. Дадам, што за тэлекінезам, які праводзіла Кулагіна, назіралі акадэмікі Хахлоў, Гуляеў і Кобзараў, прафесары Бункі, Цярлецкі і Капіца, вучоныя тэхнічных ВНУ Масквы і Ленінграда. Было зазначана, што жанчына можа ўплываць на экранаваныя шклом вагі, рассейваць "біяэнергіяй" лазернае выпраменьванне, выклікаць на адлегласці спёкі скуры, засвечваць "сілай волі" фота- і кінаплёнку, а таксама змяняць якасны састаў вадкасцей у герметычных сасудах.

Зразумела, што мабілізацыя ўнутраных рэзерваў, абуджэнне суперсілы паслаблялі арганізм Н.Кулагінай. Доктар тэхнічных навук Г.Сяргееў, які вывучаў феномен, зазначае:

— Мы выявілі велізарныя энергетычныя выдаткі. У час сеанса Кулагіна худнее на некалькі кілаграмаў; артэрыяльны ціск узнімаецца да двухсот! Утрыманне цукру ў крыві, як у дыябетыка ў перыяд вострага прыступу. Мы рабілі кардыяграму, яна паказвала перадінфарктны стан...

І сапраўды, нішто не даецца "за так", без намаганняў. У тым ліку і экстрасенсорныя здольнасці. Пасля кожнага доследу, успамінаюць тыя, хто пры гэтым прысутнічаў, Нінэль Сяргееўна 2—3 хвіліны не магла гаварыць, дрыжэла ад напружання.

Што ж яна адчувала, калі рухала прадметы?

— У мяне з пальцаў нібыта зыходзіць штосьці, і гэтым я захопліваю прадмет, рухаю яго. Чым прадмет вышэйшы, тым мне лягчэй...

"Штосьці" зыходзіць, дарэчы, не толькі з пальцаў. Эксперыментатары сцвярджалі, што ў накірунку яе намаганняў фасфарасцыруе прастора. Кандыдат навук Г.Сяргееў, калі нейк выпадкова вырашыў у час доследаў перахапіць погляд Кулагінай, адчуў моцную рэзь у левым воку: незвычайная сіла, быццам лазер, пашкодзіла сятчатку, і яму давялося перанесці складаную хірургічную аперацыю. Вось такім быў феномен "К" (Кулагінай).

Зразумела, што ў 60—70-я гады вывучэннем падобных з'яў займаліся хіба што "падпольныя" энтузіясты, якія рызыкавалі сваёй навуковай кар'ерай. Публічнае прызнанне рэальнасці біяполя ўспрымалася як выклік, зневага "адзіна правільнай" найўнаматэрыялістычнай тэорыі. Таму большасць вучоных лічылі Кулагіну фокусніцай, падманшчыцай, даволі беспадстаўна абвінавачвалі жанчыну ў шарлатанстве і іншай бязглуздзіцы. А ў выніку — суд над часопісам "Человек и закон", які перастараўся ў абвінавачваннях Нінэль Сяргееўны і паплаціўся за гэта сваёй добрай рэпутацыяй.

...Яшчэ адна яркая асоба, якая валодае тэлекінезам, — рэжысёр кіно Барыс Ермалаеў. Ён таксама здольны рухаць і падвешваць у паветры прадметы, дыстанцыйна ўплываць на прыборы. Вось як апісвае феномен Ермалаева карэспандэнт "Комсомольской правды" Яраслаў Галаванаў: "Барыс сеў на крэсла. Нахіліўшыся наперад і паставіўшы локці на калені, ён устанавіў рукі з растапыранымі пальцамі так, быццам трымаў нябачны дзіцячы мячык. Нейк увесь напружыўся, засоп, лоб яго пакрыўся потам.

— Дай цыгарэту, — папрасіў ён.

Заціснуўшы між двума пальцамі цыгарэту, Ермалаеў працягваў сапці і аддыхвацца.

— Ну вось, цяпер глядзіце, — прыглушаным голасам сказаў Барыс і "падвесіў" цыгарэту ў прастору між далонямі. Цыгарэта не ўпала. Яна пацічу круцілася ў паветры, быццам у бязважкасці. Колькі цягнуўся гэты дослед — сказаць не магу, секунд 10—15, а то і 20. Нарэшце Барыс шумна ўздыхнуў, схапіў цыгарэту, якая ўсё яшчэ вісела, і стомлена заціх на стуле".

Цікавая дэталь. Калі большасць экстрасенсаў не могуць растлумачыць прыроду сваіх талентаў (прыцягваюцца за вушы сваяцтва з чараўнікамі, дапамога Бога і г.д.), то Ермалаеў гаворыць пра ўсё прама. Яго навучыў гэтай справе адзін ленінградскі "ёг не ёг, маг не маг". Словам, "энтузіяст-прыродадаследчык"... Галоўнае, тлумачыў ён, трымаць у руках рэч да таго часу, пакуль яна не "прыліпне" да пальцаў. Два тыдні трэніровкі — і Ермалаеў дасягнуў поспеху — прадмет павіс ненадоўга ў прасторы...

Шмат людзей з унікальнымі здольнасцямі "прапусціў" праз сваю лабараторыю вядомы парапсіхолаг, прафесар А.П.Дубраў. Ён — саўтар выдатнай кнігі "Парапсіхалогія і сучаснае прыродазнаўства".

"У якасці першага нашага "паддоследнага", — піша А.Дубраў, — была супрацоўніца аднаго з маскоўскіх НДІ Ала Вінаградава. Яна на працягу параўнаўча кароткага часу магла наводзіць сваім біялагічным выпраменьваннем вельмі моцны электрастатычны разрад на прадметы, якія пачыналі каціцца па шкляной паверхні.

Быў арганізаваны спецыяльны эксперымент. На паверхні аргшкла ўстанаўлівалі побач два футляры ад цыгар. А.Вінаградава праносіла руку — і яны пачыналі рухацца, згодна з інструкцыяй эксперыментатара, — то левы футляр, то правы. Рух жа рукі, як у першым, так і ў другім выпадках, заставаўся аднолькавым".

Сярод іншых савецкіх феноменаў тэлекінеза назаву інжынера Е.Рагожына і педагога І.Дзехцяра, якія "падвешваюць" у паветры тэнісны шарык, Нэлю Міхайлаву, якая разганяе і спыняе маятнік гадзінніка, Э.Шаўчук, якая ў прысутнасці 16 вучоных і 3 кінаапаратараў узнімала "намаганнем волі" сасновую дошчачку.

Цікавай інфармацыяй падзяліўся нядаўна начальнік аддзела радыётэхнікі маскоўскага ЦНТТМ "Алгарытм" П.Пракапенка. Справа ў тым, што тут працуе лабараторыя наасферных (анамальных) з'яў.

— Да нас прыходзілі людзі, — расказвае ён, — якія могуць поглядам круціць стрэлку компаса і больш цяжкія прадметы, якія падвешаны на тонкую нітку. Адзін масквіч паказаў "магнітны газ". Хмарка дыму ад згарэлай ваты не толькі не разышлася ў паветры, а наадварот сгусцілася ў шарык, які пачаў круціцца вакол паднесенага магніта. На нашых вачах чалавек разагнаў рухамі рук хмары — і ў двор "Алгарытма" зазірнуў сонечны прамень. Як толькі эксперымент закончыўся, неба зноў зацягнула хмарамі і пайшоў дождж.

Такі ж самы эксперымент з "разгонам хмар" нядаўна дэманстраваў вядомы чалавек-феномен Альберт Ігнацэнка. Гэту сілу выкарыстоўваюць для барацьбы з непагаддзю чарадзеі Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі. Вучоныя рэлігіязнаўцы называюць такую магію, што распаўсюджана ў першабытных плямёнах, метэаралагічнай.

Наогул любы вядзьмак-чараўнік ці маг мог бы стаць знаходкай для цэлай лабараторыі вучоных, і многія без затрымкі прадэманстравалі б і тэлекінез. Напрыклад, Аляксандра Дэвід-Неэль апісвае ў рабоце "Містыкі і магі Тыбета" будыйскага манаха, які "пхнуў у жывот" з адлегласці ў тры метры не вельмі жвавага праведніка. Шырока распаўсюджана практыка "тэлекінетычных" удараў і ў некаторых школах усходняга адзінаборства.

Ёсць і такі від тэлекінеза — гнуць на дыстанцыі металічныя прадметы. Гэтакі цуд з задавальненнем дэманструе ўжо не першае дзесяцігоддзе грамадзянін Ізраіля Уры Гелер. "Намаганнем волі" ён дэфармуе відэльцы, нажы і падковы, запускае і спыняе гадзіннікі. Эксперыменты, якія правёў Гелер у Стэнфардскім інстытуце, пераканаўча паказалі чысціню доследаў. Больш таго, дослед, што ён паставіў у англійскім Бігбенскім каледжы, збіў з панталыку атамнікаў: Гелер прадэманстраваў, як пад яго поглядам мяняецца хуткасць распаду радыеактыўных ізатопаў. І прыходзіць нечаканая думка. А ці не былі "гелерамі" алхімікі мінулага? Бо золата са свінцу і медзі яны ўсё ж атрымлівалі...

Здольнасці "гнуць метал" рэдкія, але не унікальныя. На 1 з'ездзе міждысцыплінарнага абмеркавання паграпічных праблем навукі (г.Базель, 1983) спецыяльная камісія выявіла сярод публікі і прамоўцаў яшчэ трох "цудатворцаў". А гэта значыць, што ва ўсім свеце іх тысячы, а магчыма, і мільёны.

Вучоныя-матэрыялісты, якія не верылі ў тэлекінез, чаго толькі ні шукалі ў "тэлекінезістаў": нітачкі-вяровачкі, самую розную мікраапаратуру, моцныя магніты... Доўгі час у колах скептыкаў пускалі ў ход легенды пра "чорны воск", з якога нібыта можна атрымаць нябачныя ніці, умацаваць на іх прадметы і абдурваць людзей. Такі воск, маўляў, каштуе дзікія грошы, а шлях у "штаб-кватэру" (гэта значыць пункт продажу воску ў цэнтры Масквы) ведаюць толькі выбраныя. Але як быць у такім выпадку з падобнымі з'явамі, якія дэманструюцца ва ўсіх краінах? Адкуль столькі воску? Для яго вытворчасці ў маштабах планеты спатрэбілася б некалькі велізарных заводаў...

Сутыкнуўшыся з такім пярэчаннем, скептыкі выставілі яшчэ адну "пераможную" тэорыю. Яны пачалі сцвярджаць, што тэлекінез — гэта масавы гіпноз, сугестыя, унушэнне, вынік наркатычнага ап'янення, атручвання публікі "спецыяльным газам" і яшчэ чорт ведае чым. Рэальнасць, на шчасце, не апраўдала гэтых "мудрых" тлумачэнняў — загадка засталася загадкай.

Цікавы дослед, які мог бы праліць святло на тэлекінез, зрабіў кандыдат фізіка-матэматычных навук А.Сухадольскі. Выпраменьваннем квантавага генератара ён умудрыўся перасоўваць сасуд з вадкасцю, састаў якой з'яўляецца "камерцыйнай тайнай". Дадам, што магутнасць прыбора — 2 ваты, а сасуд рухаецца з хуткасцю каля міліметра ў секунду. Прама скажам, хуткасць вельмі малая. У Ермалаева прадметы "поўзаюць" куды хутчэй.

Мінулі часы, калі можна было лінчаваць усё новае, што не ўмяшчаецца ў "перамагаючае вучэнне"... І зноў з'яўляецца на старонках газет і часопісаў тэорыя біялагічнага поля, унутраных рэзерваў арганізма, таямнічых энергій. Да такога тлумачэння прыходзяць сёння перадавыя вучоныя — акадэмік Акадэміі медыцынскіх навук В.Казначэеў, прафесар А.Медзяляноўскі, многія іншыя. Рэспектабельныя калегі, праўда, да гэтага часу лічаць іх дзівакамі, выстаўляюць шукальнікамі "таго, чаго не можа быць, бо не можа быць ніколі". Моцная інерцыя мінулага. Каму, скажыце, з шэфаў Акадэміі навук былога СССР захочацца пэцкаць кандыдацкую ліўрэю або дактарскі мундзір "нечым такім"? І я не здзіўлюся, калі даведаюся, што супрацоўнік інстытута тэарэтычнай і эксперыментальнай фізікі Алег Дабравольскі, які сам валодае тэлекінезам, так і не знаішоў падтрымкі ў сваіх начальнікаў. Яны ўсё яшчэ "спяць". А сон розуму нараджае, як вядома, пачвар...

Яўген МАХТАРАЎ,
сакратар групы
вывучэння
анамальных з'яў
Яраслаўскага аддзялення
Астранома-геадэзічнага
таварыства
Расійскай Федэрацыі.

# “АПОШНІ ПІСК” Варшаўскага рынку

*Падобна на тое, што тэма “польскага гандлю” апошнім часам паступова затухае. Але не-не, ды й з'явіцца ў прэсе паведамленне аб закрыцці славутага Варшаўскага маста, у выніку забруджання тамашняй мясцовасці незлічоным натоўпам турыстаў-гандляроў. І пытанне “Што там лепш ідзе?” па-ранейшаму вельмі актуальнае сярод многіх суайчыннікаў, якія жадаюць трапіць “туды”.*

Мяркуючы па тэндэнцыі, якая назіраецца скрозь крымінальную прызму, многія з суграмадзян ужо даволі хутка вызначылі апошні кан'юнктурны піск усходнееўрапейскага рынку і поўнасцю пераключылі свае намаганні на здабычу канкрэтных відаў тавараў. І асабліва на каштоўныя каляровыя металы.

Як сведчаць міліцэйскія зводкі, за апошні час колькасць крадзяжоў каляровых металаў з мінскіх прадпрыемстваў значна павялічылася. У якасці пакупнікоў выкрадзенага ўсё часцей выступаюць замежныя “прадпрымальнікі”. Пры гэтым рэалізацыя за мяжу каштоўных металаў адбываецца, як правіла, пад выглядам лому і адходаў.



Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю (АБЭЗ) УУС Мінгарвыканкама ў сакавіку выкрылі дзве злачынныя групы, якія сістэматычна выкрадалі нікель з Мінскага мотавелазавода і завода імя Гастэлы, збываючы яго ў Польшчу. Усяго было выкрадзена больш за 10 тон аноднага нікелю, на суму больш мільёна рублёў. Не абышлося пры гэтым без хабару некаторым службовым асобам у рублях і валюце.

9 красавіка пры спробе збыту нікелю супрацоўнікамі АБЭЗ УУС былі затрыманы рабочыя Мінскага завода халадзільнікаў К. і Р., якія па дамове з таксістам М. вывезлі з тэрыторыі завода 600 кілаграмаў нікелевых сплаваў на суму 225 тысяч рублёў. Раней гэта ж злачынная група “загнала” палякам 56 нікелевых вырабаў, атрымаўшы за гэта паўтары тысячы “зялёненькіх”.

Праз два дні Ленінскім РАУС затрыманы рабочы мотавелазавода Г., які атрымаў за крадзеж і збыт вырабаў з каляровых металаў больш дзвюх тысяч рублёў. А своечасовае ўмяшанне супрацоўнікаў АБЭЗ Ленінскага РАУС у незаконную здзелку кааператараў не дазволіла “ўплыць” з Беларусі 100 тонам алюмінію. Яшчэ праз два дні супрацоўнікі Першамайскага РАУС затрымалі работніка завода імя Вавілава, які паквапіўся на дзяржаўную латунь, ацэненую спецыялістамі больш чым у 10 тысяч рублёў.

16 красавіка супрацоўнікамі АБЭЗ Савецкага РАУС выкрыта група работнікаў Мінскага эксперыментальнага фурнітурнага завода, якая ўкрала з тэрыторыі свайго прадпрыемства сплаў цынку на 300 тысяч рублёў.

17 мая майстар Мінскага аўтазавода Л. спрабаваў выкрасці нікелевыя вырабы на 50 тысяч рублёў...

Зусім нядаўна спецыялісты Мінскага гарадскога ўпраўлення “Ахова” пры МУС РБ абследавалі рад прадпрыемстваў і сховішчаў, дзе захоўваюцца каляровыя металы. Высветлілася наступнае: больш паловы аб'ектаў ахоўваецца вельмі дрэнна.

УУС Мінгарвыканкама неаднойчы звярталася да кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў горада з просьбамі і патрабаваннямі забяспечыць захаванасць каляровых металаў.

Але мяркуючы па тым, што вышэйпамянёны Варшаўскі мост па-ранейшаму прагінаецца пад цяжарам шматлікіх элементаў табліцы Мендзялеева, пэўных вывадаў ніхто з “латунных і нікелевых” начальнікаў рабіць не збіраецца...

**С.РАЧЫЛА,**
**УУС Мінскага гарвыканкама.**

*Асцярожна: “сенсацыя”*

## А ЦІ БЫЛІ “ХЛОПЧЫКІ”?

"За "Цынкавых хлопчыкаў" — у суд" — так называлася нататка, змешчаная 23 чэрвеня ў газеце "На страже Октября". "Пісьменніца Святлана Алексіевіч, — гаворыцца ў ёй, — пасля выхаду ў свет кнігі перажывае сапраўдную вайну — аўтара абвінавачвалі ў скажэнні і фальсіфікацыі расказаў "афганцаў" і іх маці. І вось чарговае наступленне пасля з'яўлення на сцэне Беларускага тэатра імя Янкі Купалы і на экранах тэлебачання аднайменнага спектакля. Суддзям Цэнтральнага раёна сталіцы трэба будзе разгледзець іскавую заяву групы маці воінаў-інтэрнацыяналістаў. Дата суда не вызначана. Спектакль зняты са сцэны...

Мы звязаліся з судом Цэнтральнага раёна сталіцы з просьбай пракаменціраваць гэтае паведамленне, аднак там яно выклікала здзіўленне. Сакратар С.Кульгон паведаміла, што ў цяперашні час такая заява судом не разглядаецца. Першая ж рэакцыя самой Святланы Алексіевіч была такая:

— Бязглуздзіца нейкая. Як можна падаць у суд на спектакль? Там жа няма нейкага канкрэтнага прозвішча...

Як растлумачыў аўтар нататкі ў "НСО" У.Стрэльскі, інфармацыя была ўзята з маскоўскай газеты "Красная звезда"...

## ІНФА-КРЫМ

### “АКУЛЫ ІМПЕРЫЯЛІЗМУ”

пачынаюць з'яўляцца ў ціхіх водах эканомікі Беларусі. Паводле звестак нашага Міністэрства ўнутраных спраў, асноўная частка злачыннасці перамясцілася апошнім часам у сферу эканомікі. Як лічаць спецыялісты, сёння тут не выкрываецца каля 70 працэнтаў злачынстваў, у тым ліку 90–95 працэнтаў хабарніцтва і крадзяжоў. Разам з тым на Беларусі ў мінулым годзе выкрыта эканамічных злачынстваў на 30 працэнтаў больш, чым у Маскве, дзе крымінагенная сітуацыя значна горшая.

### ПАСЯБРУЕМ... МАФІЯМІ!

"Імпартныя" мафіёзныя структуры ўсё больш заглядаюцца на краіны СНД у пошуках новых "сфер уплыву". Паводле звестак кампетэнтных органаў, у прыватнасці, да айчыннай далёкаўсходняй мафіі хутка падключыцца японская "Якудзава".

### ДАВЯРАЙ, АЛЕ ПРАВЯРАЙ

Па такому прынцыпу вырашылі дзейнічаць польскія ўлады ў адносінах да мытных службаў. Яны ствараюць спецыяльную інспекцыю, якая будзе кантраляваць работу мытнікаў, змагацца з іх службовымі злоўжываннямі. Акрамя таго, плануецца адкрыць шэраг прыватных мытных фірм, што павінна аблегчыць працу іх дзяржаўных калег.

### УКРАІНА БАІЦЦА БЕЛАРУСІ?

Такі вывад можна зрабіць, мяркуючы па апошніх навінах з былой "братняй рэспублікі": для забеспячэння аховы мяжы з Расіі і Беларусі тут плануецца стварыць дадатковыя пагранічныя службы, што абыдзецца нацыянальнаму бюджэту прыкладна ў 3,5 мільярда рублёў.

### НЕЗАЎВАЖАНАЯ ДАТА

26 чэрвеня – Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй. На жаль, гэтая дата, якая адзначаецца з 1988 года па рашэнню ААН, застаецца амаль не заўважанай нашай грамадскасцю. У Мінску, напрыклад, пакуль толькі дзве ўстановы аказваюць кваліфікаваную дапамогу наркаманам і таксікаманам: гарадскі наркалагічны дыспансер на вуліцы Гастэла і наркалагічная лабараторыя на вуліцы Някрасава. Між тым даследчыкі лічаць, што сучасныя наркаманы ў большасці выпадкаў застаюцца нявысветленымі.

### АМЕРЫКАНСКІ “КАЛІОСТРА”

Не адно дзесяцігоддзе вучоныя, экстрасенсы і ілюзіяністы спрабуюць пранікнуць у тайну феномена Гары Гудзіні, які ўражваў аматараў вострых пачуццяў у першай палове XX стагоддзя. Наўрад ці можна адназначна растлумачыць, якім чынам Гудзіні ўдавалася вызваліцца з цесных наручнікаў, чаму для яго не былі перашкодай тоўстыя турэмныя сцены і краты, больш таго, Гудзіні, які карыстаўся не меншай папулярнасцю, чым граф Каліостра, цудоўна адчуваў сябе ў труне пад тоўстым слоем зямлі і ў лічаныя секунды ўсплываў на паверхню ліверпульскіх докаў, на дно якіх яго апускалі ў зачыненай скрыні. Яму прыпісвалі зносіны з замагільным светам, выкарыстанне прыёмаў спірытуалізму і гіпноза, здольнасць перасоўвацца ў іншае вымярэнне і паралельны свет.

Больш прызямлёную трактоўку феномена Гудзіні дае доктар медыцыны з Вялікабрытаніі Джон Колі. Ён лічыць, што, па-першае, Гудзіні быў добра знаёмы з індыйскай ёгай, што дазваляла яму лёгка абыходзіцца некаторы час без паветра. Па-другое, Гудзіні цудоўна ведаў вялікую колькасць сістэм запораў і замкоў, а таксама спосабы іх хуткага адкрыцця. Па-трэцяе, знакаміты амерыканец цудоўна валодаў сваім целам і доўгія трэніроўкі дазвалялі яму рабіць сапраўдныя цуды. І апошняе – у Гудзіні была добра падрыхтаваная каманда асістэнтаў, якая заўсёды нябачна для астатніх пакідала сваму шэфу шчыліну для чарговага дзіўнага знікнення...



НА ЗДЫМКУ: набор магічных прыстасаванняў Гары Гудзіні.

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

## ПАМЫЛАНКІ

- Трыпсіх
- Вінна-гарылачныя вырабы.
- Карабах-барабас.
- Земляраб.

**Валянцін Малькоў.**

- Любералізацыя цэнаў.
- Жаночы курагляд.
- Отамыларыланголаг
- Міністр замежных страў.

**А. Пахмялеўскі.**






Мал. М.Саўлюка

# АНЕКДОТЫ

Едуць у электрычцы дзве жанчыны: адна маладая, адна старая і трое мужчын. Заязджае цягнік у тунель, чуецца гук пацалунка і ўслед за ім — гук аплявухі.

Маладая думае:"Вось яе, старую, цалуюць... Няхай бы мяне пацалавалі!"

Старая думае: "Бач ты, моладзь: цалуюцца з першым стрэчным!"

Першы мужчына думае: "Яшчэ раз у тунель заедзем — яшчэ раз пацалую!"

Другі думае:"Яшчэ раз пацалуюць — яшчэ раз урэжу!"

Трэці думае: "Яшчэ раз урэжуць — на наступным сыйду!"

* * *

Муж і жонка:

— Любы, якіх жанчын ты больш любіш: прыгожых ці разумных?

— Ні тых, ні другіх. Ты ж ведаеш, што я кахаю толькі цябе!

* * *

Хворы прыходзіць да ўрача:

— Доктар, у мяне ногі чорныя.

— А вы іх мылі?

— А што, дапамагае?

* * *

Жанчына прыходзіць у аптэку:

— Дайце мне таблетак ад прагнасці! Ды паболей! Паболей!

* * *

— Ты ўжо чула? Наш сусед разбіў сабе галаву!

— Як гэта адбылося?

— Ён набыў сабе новы бумеранг, а стары выкінуў.

* * *

Бацька п'е гарэлку. Сын падыходзіць, нюхае і моршчыцца.

— Ну і паскудства...

— А ты што думаў — бацька мёд п'е?

## БІЯФАК РЫХТУЕЦЦА ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Пакуль ВС і ўрад РБ у цяжкіх пакутах нараджаюць канцэпцыю нацыянальнай валюты, студэнты біялагічнага факультэта БДУ пасля нядоўгіх дэбатаў увялі свае грошы. Кожная купюра адлюстроўвае навуковую спецыфіку кафедры, характар і прозвішча загадчыка: Фамічоў — Фомы, Лапацін — Лопы, Шуканаў (дэкан) — Шукі. Канверсаванасць забяспечваецца півам, жалудамі, сушанай саранчой альбо завалам на іспыце. Хутка адкрыецца грашовая біржа, дзе выкладчыкі будуць служыць брокерамі.

**(Наш кар.)**




# ПАКАЗВАЕ "ГАРЧЫЧНІК"

## ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ НА 31 ЧЭРВЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.30. Раніца без "бублікаў".
8.45. Кінанастальгія: "Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Жлобіне, на БМЗ".
10.15. ТБ — школе. "Не шкадуйце грошай на дзяцей". Парады галоўнага эканаміста Міністэрства адукацыі РБ Б.Р.Ментузовіча аб тым, як і дзе можна набыць пуцёўку ў піянерлагер за 3842 рублі і 74 капейкі.
10.45—16.00. Рамонт тэлесеткі і цеплатрасы.
16.00. Навіны Татарстана.
16.15. Абласныя навіны (Мінскі аблана).
16.30—17.30. Рамонт тэлесеткі і каналізацыі.
17.30. Праграма тэлеперадач на наступны месяц.
19.00. Тэлемост дружбы (Бабруйск—Хайфа).
19.45. Рамонт тэлесеткі і асфальтаванне праспекта Ф.Скарыны.
21.00. Калыханка (пасля 16-ці і старэйшым).
21.15. Наш каментарый да "Калыханкі".
22.00. Прамая лінія. "Мінская прыгажуня" Л.Яўлінская вучыць распрананню на прахадной работніц Маладзечанскага мясакамбіната.
22.30. Рамонт тэлесеткі і футбольнай сеткі "Дынама" (Мн).
23.15. Хвілінка паэзіі. Вянок вянкоў чытае А.Хвалынскі.
23.16. Маст.фільм "Санта-Барбасэна", 4895-я серыя.
24.00. НІКа чытае заўтрашнія газеты.
24.14. Для тых, хто не спіць: пераключэнне на Польшчу ці Расію.

### 1 канал "Астанкіна"

05.55. Праграма перадач Крыма Грузіі.
06.00. Футбол. Чэмпіянат Еўропы. Зборная Аўстраліі — зборная Манголіі.
07.55. Раніца дзелавога чалавека. "Як чысціць абутак".
08.00. Рытмічная гімнастыка для тых, каму за 80.
08.15. Навіны на 31 чэрвеня.
08.30. Ранішняя зорка Давіда.
08.55. Мультфільмы для дзяцей "Крот-забойца", "Згвалтаванне ў тумане", "Справа Джэка Патрашыцеля".
09.30. Відавочнае — неверагоднае. Пра візіт М.С.Гарбачова і Р.М.Гарбачовай у Сандуноўскія лазні.
10.00. Польская мова. Урок 14-ы: турэцкія кажухі.
10.45. Маст.фільм "Бедныя таксама смяюцца" (2016-я серыя).
12.00. "Гэта было, было...". Успаміны ветэранаў аб паездках у метро за 5 капеек.
12.30. Пад знакам "пі", "М" і "Ж".
13.00. "Сустрэнемся ў Барселоне". Арцём Тарасаў запрашае жыхароў СНД на Летнія алімпійскія гульні.
13.30. Чалавек і сухі закон.
14.00. Навіны Беламорканала.
14.15. "Старажытны раманс" (з сурдаперакладам).
14.45. Клуб вандраўнікоў. Тэлевандроўка па начной Антарктыдзе.
16.45. "Хто з намі — той супраць нас". Прэс-канферэнцыя У.В.Жырыноўскага.
17.30. У свеце жывёл. Рэпартаж з Тамбоўскай турмы.
18.30. Міжнародны конкурс П.І.Чайкоўскага. Выступленне піяніста рок-гурта "АС/ДС".
19.00. Уолт Дысней прадстаўляе: "Кот Леапольд у Прастаквашына".
19.15. Аўтарскае тэлебачанне: "Оба-на", "Ёлы-палы", "Бля-буду".
22.30. Адкрытае першынство ЗША па стральбе з м/к вінтовак. Зборная Азербайджана — зборная Арменіі.
23.00. Цэны на заўтра.
23.15. "Тэлевізійнае знаёмства". Урмас От гутарыць з Чалавекам Нівідзімкам.
24.30. Для веруючых і няверуючых.

### Канал "Расія"

07.00. Весткі з Гурнова.
07.15. Весткі з Растова.
07.30. Французская мова.
08.15. Іспанская мова.
09.00. Ангельская мова.
09.45. Руская мова.
10.30. Беларуская мова.
12.15. Іўрыт.
13.00. Чукоцкая мова.
13.45. Прыднястроўская мова.
14.30. Ідзіш.
15.15. Руская мова.
16.00. Весткі з "Матроскай цішыні".
16.15. "Каго будзем есці заўтра". Зварот прэзідэнта Б.Ельцына да расейскага народа.
20.00. Весткі.
20.15. Гастранамічны прагноз.
20.30. Пералік дзяржаўных святаў на заўтрашні дзень.
23.45. Рэклама ("Аліса", "Інкамбанк", "Чырвоная змена").

Дзяжурны рэдактар А. КАМІНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82,32-50-01.

Зак. № 26
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12